

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P. O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World Published by the Belarusan American Ass'n Inc. ISSN 1054-9455

№499 Жнівень 2004 г. Год выданьня 55

# Марш Тыдню Паняволеных Народаў у Нью Ёрку



З 18 ліпеня пачаўся Тыдзень Паняволеных Народаў, які ўжо ў 46-ты раз штогод праводзіцца ў перадапошні тыдзень ліпеня. Тыдзень праводзяць для прыцягненьня ўвагі амэрыканскага грамадзтва да лёсу народаў, што пакутуюць пад ціскам дыктатуры й таталітарызму. Тыдзень Паняволеных Народаў паўстаў у 1959 годзе, дзякуючы адмысловаму публічнаму закону Злучаных Штатаў № 86-90, у выніку намаганьняў выхадцаў з краінаў, што цярпелі тады пад ярмом камунізму, і адпаведных этнічных, у тым ліку беларускіх, арганізацыяў у ЗША. За апошнія 45 гадоў большасьць з краінаў вызвалілася ад таталітарнага панаваньня, але Беларусь, нажаль, не ўвайшла ў іхны лік. Таму беларусы Амэрыкі надалей бяруць удзел у Камітэце Паняволеных Народаў і ў імпрэзах Тыдню Паняволеных Народаў.

Тыдзень традыцыйна пачынаецца Маршам Паняволеных Народаў па 5-й Авэню. Пасьля імшы за паняволеныя народы ў Катэдры Сьв. Патрыка ўдзельнікі маршу прайшлі з разгорнутымі сьцягамі, плякатамі й транспарантамі да 72-й вуліцы, дзе ў Цэнтральным парку адбылося афіцыйнае адкрыцьцё Тыдню. Лунілі бел-чырвона-белыя сьцягі. Былі зачытаныя Праклямацыі й прывітаньні ад Прэзыдэнта ЗША, губэрнатараў Нью Ёрку і Нью Джэрзы, ад мэра Нью Ёрку М. Блумбэрга. Прысутныя ўшанавалі хвілінаю цішы памяць нядаўна памерлага Рональда Рэйгана, які шмат зрабіў для вызваленьня паняволеных народаў.

З словам да прысутных выступіў Старшыня Беларускага Народнага Фронту сп. Зянон Пазьняк. Ён сказаў: "Мы беларусы, і беларуская палітычная эміграцыя змагаюцца супраць дыктатуры й супраць агрэсыўнай палітыкі Расеі. Мы падтрымоўваем барацьбу ўсіх народаў за волю й незалежнасьць сваіх краёў. І мы пераможам, Беларусь будзе вольнаю дэмакратычнаю краінаю!". Затым выступалі прадстаўнікі Нікарагуа, Эстонскай антыкумуністычнай лігі, індзейцаў мескіта, Таварыства імя Штойбэна. Была прынятая рэзалюцыя аб працягу змаганьня за вызваленьне ўсіх паняволеных народаў і захаваньне памяці пра ахвяры камунізму, які каштаваў сьвету 140 мільёнаў жыцьцяў. У рэзалюцыі асобна ўзгадваецца патрэба спыніць панаваньне дыктатара Лукашэнкі, спыніць русыфікацыю ў Беларусі й паўзучае пранікненьне Расеі ў краінах Балтыі.

**Віталь ЗАЙКА**

***На здымку: беларускія сьцягі луналі ў Катэдры Сьв. Патрыка.***

## АБ'ЯВА

Аддзелы БАЗА ў Нью Ёрку і Нью Джэрзы вядуць падрыхтоўку да арганізацыі паездкі на 26-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў Таронта (Канада) 4-6 верасьня сёлета. Плянуецца замовіць аўтобус на 49 асобаў. Выезд увечары ў пятніцу 3 верасьня, вяртаньне ўвечары 6 верасьня. Пры дастатковай колькасьці жадаючых плянуем заезд на **Ніягарскі вадаспад**.

Кошт паездкі на асобу залежыць ад колькасьці жадаючых ехаць аўтобусам, і складзе каля 100-150 даляраў. Усіх жадаючых ехаць гэтым аўтобусам просьба паведаміць як найхучэй пра свой удзел у паездцы, пазваніўшы спн. Валянціне Якімовіч па тэлефону **917-376-3667**.

Грамадзяне ЗША і асобы з грын-картамі не патрабуюць візы ў Канаду. Азыльянтам і бежанцам патрабныя *Travel Dacument* і канадыйская віза, якую можна здабыць у **Кансуляце Канады** ў Нью Ёрку па адрасу:

*1251 Avenue of the Americas (6th Ave)*
*New York, NY 10020-1175*
**(on concourse level, паміж 49 і 50-й вул.).**
**Tel: (212) 596-1628, Fax: (212) 596-1790.**

## Таронцкі аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады

запрашае Вас на **26-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі**, якая мае адбыцца сёлета, у Labor Day Weekend, **4-6 верасьня 2004 году**, у **ТАРОНЦЕ, Канада**.

**ТЭМА СУСТРЭЧЫ:** "Праблемы зьберажэньня культурных набыткаў, мовы і гістарычных каштоўнасьцяў Беларусі".

**ПРАГРАМА СУСТРЭЧЫ:**

**Субота, 4 верасьня**

гадзіна 2-я папоўдні — адкрыцьцё Сустрэчы ў Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры (524 St. Clarens Ave., блізу мэтро Lansdowne);
гадзіна 3-я папоўдні - працоўныя сэсіі;
гадзіна 8-я вечара — баль Сустрэчы і канцэрт у Lithuanian Hall (1573 Bloor Street West, блізу мэтро Dundas West).

**Нядзеля, 5 верасьня**

гадзіна 10-я раніцы — Багаслужба ў Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царкве Сьвятога Кірылы Тураўскага;
гадзіна 12-я — абед у Беларускім грамадзка-рэлігійным цэнтры;
гадзіна 2-я папоўдні — урачысты сход сустрэчы й канцэрт (заля БГРЦ);
гадзіна 5-я вечара — экскурсія па Таронце (для жадаючых);
гадзіна 8-я вечара — сяброўская вечарына (заля БГРЦ).

**Панядзелак, 6 верасьня**

гадзіна 9-я раніцы — Паломніцтва да Беларускага Памятнага Крыжа ў Бэры.

Падчас Сустрэчы адбудзецца выстава беларускіх мастакоў Канады й Злучаных Штатаў Амэрыкі.

**АРГАНІЗАЦЫІ-ФУНДАТАРЫ:** Згуртаваньне беларусаў Канады, Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.

**АРГАНІЗАТАР-ГАСПАДАР:** Таронцкі аддзел Згуртаваньня беларусаў Канады, тэл. (416) 530-1025.

АРГАНІЗАЦЫЙНЫ КАМІТЭТ: **Кастусь Акула** — беларускі пісьменьнік, першы старшыня ЗБК; **Натальля Баркар** — сябра ЗБК; **Марыя Ганько** — сябра ЗБК; **Надзея Дробіна** — старшыня 26-й Сустрэчы, старшыня ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; **Віялета Кавалёва** — галоўны рэдактар газэты "Беларускае слова", кіраўнік фальклёрнай групы "Яваровы людзі", сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; доктар **Руслан Качаткоў** — старшыня Каардынацыйнага камітэту беларусаў Канады; **Яўген Малашчанка** — сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; **Вольга Манькоўская** — сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК; доктар **Пётр Мурзёнак** — старшыня галоўнай управы Згуртаваньня беларусаў Канады; **Валянціна Шаўчэнка** — сябра ўправы таронцкага аддзелу ЗБК.

Арганізатары просяць удзельнікаў своечасова паведаміць пра намер узяць удзел у Сустрэчы.

Па інфармацыю просім зьвяртацца: Таронта - **Надзея Дробіна** (416-530-1025, 416-769-3916, 416-452-2200); Атава - др. **Пётра Мурзёнак** (613-733-5775); Мантрэаль - **Анатоль Храноўскі** (514-973-1639); Нью-Ёрк - **Віталь Зайка** (718-296-1458); Дэтройт - **Люда Бакуновіч** (586-779-3048); Чыкага - **Ванкарэм Нікіфаровіч** (847-419-1943); Гайленд-Парк, Нью-Брансўік - **Юрка Азарка** (732-560-8610); Кліўленд - **Павал Васілеўскі** (440-268-0073) ; Бостан - **Раман Кардонскі** (781-369-1410)

Наконт пытаньняў разьмяшчэньня зьвяртацца да спадарыні **Валянціны Шаўчэнка** (Таронта) па тэл. **416-444-0838**.

# Прэзэнтацыя новых кнігаў

У Ганаровай залі Нью Ёрскай Публічнай Бібліятэкі (НЁПЛ) на 42-й вул. на Мангэтане 28 чэрвеня адбылася прэзэнтацыя дзьвух кнігаў па беларускай бібліяграфіі, складзеных Вітаўтам Кіпелем і сьв. пам. Зораю Кіпель (1927—2003). У цырымоніі ўзялі ўдзел прадстаўнікі беларускай грамады Амэрыкі, супрацоўнікі Славянскага і Балцкага аддзелу НЁПЛ, Норман Рос – уласьнік выдавецтва, што надрукавала адну з прэзэнтуемых кнігаў, і прадстаўнікі трох пакаленьняў сям'і Кіпеляў.

Кіраваў імпрэзаю прафэсар Кўынз-калэджу Томас Бэрд. Напачатку прысутныя ўшанавалі памяць Зоры Кіпель, якая не дажыла да выхаду ў сьвет плёну сваёй сумеснай шматгадовай працы з Вітаўтам Кіпелем. Праф. Т. Бэрд у сваёй прамове адзначыў унёсак Зоры Кіпель у дасьледваньне і разьвіцьцё беларускай культуры: " Зора Кіпель пакінула сьлед у шэрагу беларусаведных дысцыплінаў, стала аўтарам і су-аўтарам многіх кнігаў і артыкулаў. Як супрацоўнік Славянскага і Балцкага аддзелу, яна заўсёды ахвотна дапамагала навукоўцам зь Беларусі й усім зацікаўленым у беларусаведзе. Кнігі, што прэзэнтуюцца сёньня – "Беларускі й беларусаведны друк на Захадзе. Асобныя выданьні" й " Беларускі друк на Захадзе. Перыёдыкі" — гэта годны вынік ахвярнай працы на карысьць беларускай культуры."

Затым др. Янка Запруднік у сваім выступе распавёў пра жыцьцёвы шлях Зоры Кіпель, пра ейную грамадзкую дзейнасьць. У прыватнасьці ён сказаў: "Зора пачала браць удзел у беларускім грамадзкім жыцьці з 1943 году. Была актыўнаю сяброўкаю Саюзу Беларускай Моладзі, брала ўдзел у мастацкіх імпрэзах як сьвята Дажынак, ладзіла канцэрты ў сіроцінцах, працавала з дашкольнікамі. На эміграцыі актыўна працавала ў скаўтынгу, у студэнцкіх арганізацыях, уваходзіла ў склад управаў БАЗА, БІНіМу, рэсорту Бэлэр-Менск, брала ўдзел у падрыхтоўцы безьлічы фэстываляў, канфэрэнцыяў, іншых імпрэзаў." Зора Кіпель належала да Амэрыканскага Таварыства Славянаведы, Асацыяцыі Бібліятэкаў Амэрыкі, Амэрыканскага Таварыства Сярэднявечнай Літаратуры ды іншых. Яна была ганароваю сяброўкаю Саюзу Пісьменьнікаў Беларусі. Далей Др. Я. Запруднік азнаёміў прысутных зь пералікам працаў Зоры Кіпель, дзе асобнае месца займаюць артыкулы па беларускай бібліяграфіі, а таксама кніга "Беларускі Трышчан" (1988) — ангельскі пераклад беларускай сярэднявечнай "Аповесьці пра Трышчана", зь ейным абшырным уступам.

Наступным слова ўзяў старшыня нью ёрскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Віталь Зайка. Ён адзначыў ролю, якую адыграла Зора Кіпель і творчы «тандэм» Кіпеляў у грамадзкім жыцьці беларусаў Амэрыкі, у культуры беларускай эміграцыі й у беларускай бібліяграфічнай навуцы. Прамоўца ў прыватнасьці сказаў: "Падчас маёй першай сустрэчы з спадарствам Кіпеляў у 1990 годзе ў лёнданскай Скарынаўскай Бібліятэцы я быў моцна ўражаны эрудыцыяй і кампэтэнтнасьцю Зоры Кіпель, ейным пяшчотным стаўленьнем да беларускай кнігі. Зора Кіпель разам зь Вітаўтам Кіпелем у Амэрыцы паставіла Беларусь на культурную і бібліятэчную мапу сьвету. Фактычна ў некаторых галінах яны болей зрабілі ўдвух для беларускага слова, чым цэлыя акадэмічныя інстытуты й дзяржаўныя стрыктуры з сотнямі супрацоўнікаў, што ў апошнія 10 год працуюць на заняпад і спрыяюць стагнацыі беларускай культуры на Бацькаўшчыне, дзе сёньня размаўляць па-беларуску лічыцца ўладамі як "праява нацыяналізму". Імя і памяць Зоры Кіпель застануцца з намі, як і гэтыя кнігі, што сёньня прэзэнтавныя тут. І яны будуць служыць беларускай культуры й беларускім людзям, якіх так любіла Зора".



**На здымку зьлева ўправа: др. Вітаўт Кіпель, выдавец Норман Рос, Віталь Зайка, др. Янка Запруднік, праф. Томас Бэрд, Эдвард Казінец, Лявон Юрэвіч.**

Сп. Лявон Юрэвіч, вядомы літаратурны крытык і аўтар шэрагу кнігаў пра літаратуру і гісторыю эміграцыі, выступіў з прачуленымі словамі пра Зору Кіпель па-беларуску (папярэднія прамовы былі па-ангельску), сказаўшы: «У Нью Ёрскую Публічную Бібліятэку мяне прывяла ў траўні 1993 году спадарыня Зора. Вучыла хадзіць амэрыканскімі навуковымі калідорамі, знаёміла зь сьветам і беларускай эміграцыяй, уцягвала ў разнастайныя справы, у рэдагаваньне газэты, у працу з кнігамі. Яна была ня надта шчодраю на ўхвалы ды кампліманты. Але тая вонкавая суворасьць раз-пораз вылівалася — або ў дарчы надпіс на Трышчанавым перакладзе ("маладому сябру"), або ў кніжскі падарунак, які пасьля ейнага пахаваньня прынёс сп. Кіпель са словамі: "Зора хацела, каб кніга была ў цябе". Тое была "Крыўская кніга" Вацлава Ластоўскага." Сп. Юрэвіч зьяўляецца ўкладальнікам Бібліяграфіі З. Кіпель, што была надрукаваная ў № 27 «Запісаў БІНіМ» і налічвае разам 113 пазыцыяў.

У канцы імпрэзы слова ўзяў загадчык Славянскага і Балтыцкага аддзелу НЁПЛ сп. Эдвард Казінец, які падзяліўся ўспамінам аб сумеснай працы з Зорай Кіпель і адзначыў, што дзякуючы сям'і Кіпеляў НЁПЛ зрабілася найбагацейшым дэпазыторыям беларускай кнігі ў Амэрыцы. Ён падзякаваў прысутным за ўдзел у імпрэзе і выказаў спадзеў на далейшае супрацоўніцтва зь беларускай грамадою.

Сп. Вітаўт Кіпель перадаў загадчыку аддзелу сп. Казінцу новы каштоўны дар для Бібліятэкі — поўную падшыўку газэты "Наша Ніва" за 1906—1909 гады з кнігазбору кс. Адама Станкевіча, які Зора Кіпель набыла падчас аднаго з наведваньняў Беларусі, адзін з двух зьахаваўшыхся асобнікаў кнігі "Чароўная голка" Леаніда Свэна (бацькі Зоры Кіпель Лявона Савёнка), а таксама кнігу Вацлава Ластоўскага "Кароткая гісторыя Беларусі", выдадзеную лацінкаю (1910). Сп. Казінец падзякаваў за дар і запэўніў, што Нью Ёрская Публічная Бібліятэка надалей будзе пашыраць сваю калекцыю беларусікі.

У залі поруч з прэзэнтаванымі кнігамі экспанаваліся іншыя творы, напісаныя спадарствам Кіпеляў.

*Віталь ЗАЙКА*

# Сустрэча ў Празе

У Празе 3 ліпеня адбылася сустрэча віцэ-прэмьера чэскага ўраду па пытаньнях навукі, дасьледаваньняў ды гуманітарных рэсурсаў Пэтра Марэша з дэлегацыяй сяброў Зьвязу Беларусаў Замежжа, якую ўзначальваў старшыня Аўген Сідорык. Абмяркоўваліся некалькі пытаньняў, якія тычацца як супрацоўніцтва беларускай і чэскай супольнасьцяў, так і стаўленьня афіцыйных палітычных колаў Чэскай Рэспублікі да апошніх падзеяў у Беларусі. Як вядома, Пэтр Марэш неаднаразова наведваў Беларусь, таму ён вельмі добра ведае сытуацыю там.



***Пэтр Марэш, віцэ-прэм'ер чэскага ўраду, і Аўген Сідорык, старшыня ЗБЗ.***

Пэтр Марэш пацьвердзіў, што чэскі ўрад па-ранейшаму пераканаты ў антыдэмакратызме рэжыму Лукашэнкі, які брутальна парушае правы й свабоды чалавека. Большасьць палітыкаў Чэхіі ня прызнае легітымнасьць Лукашэнкі як прэзыдэнта і мяркуе, што пасьля 21 ліпеня ён павінен нарэшце сысьці. Зразумела, што яны падтрымліваюць ідэю апазыцыі аб правядзеньні ў гэты дзень акцыі пратэсту супраць апошняй эўрапэйскай дыктатуры. Таксама яны памятаюць, што менавіта 7 ліпеня, чатыры гады таму, таямніча зьнік апэратар ОРТ Зьміцер Завадзкі. Пазыцыя Чэхіі ў гэтым сэнсе вядомая, як і пазыцыя ўсяго Эўразьвязу: якія-б высокія пасады ні займалі вінаватыя ў выкраданьні ды магчымым забойстве беларускіх дзеячоў, яны павінны быць знойдзеныя і пакараныя.

Віцэ-прэмьер Чэхіі патлумачыў сваю пазыцыю наконт набыцьця беларускай дыяспарай ў гэтай краіне статусу нацыянальнай меньшасьці. Справа ў тым, что тыя, хто такі статус у Чэхіі маюць (славакі, палякі, немцы ды інш.), карыстаюцца большаю дзяржаўнаю падтрымкаю ў пытаньнях мовы, культуры й г. д. Сп. Марэш выказаў зацікаўленасьць у тым, каб беларусаў запрасілі ў адмысловую Раду па пытаньнях нацыянальных меншасьцяў пры чэскім урадзе, пакуль што ў якасьці гасьцей. Віцэ-прэмьер падкрэсьліў, што такі крок будзе сьведчыць аб надзвычайнай увазе, якую Чэхія надае адносінам зь Беларусьсю.

Сп. Сідорык распавёў аб мерапрыемствах, якія рыхтуе беларуская апазыцыя ў ліпені, падзякаваў за шчырую зацікаўленасьць у тым, каб сапраўды дапамагчы шматпакутліваму народу Беларусі.

*www.bielarusy.org*

# Сьвяткаваньне ў Вікторыі

У нядзелю 27 чэрвеня 2004 году Беларускі Цэнтральны Камітэт у Вікторыі адзначыў выдатнейшую падзею ў змаганьні за незалежнасьць Беларусі - 60-я ўгодкі Другога Ўсебеларускага Кангрэсу.

Старшыня БЦКВ Алег Шнэк прывітаў прысутных і папрасіў хвілінаю цішы ўшанаваць памяць Прэзыдэнта Беларускай Цэнтральнай Рады Радаслава Астроўскага, сяброў ураду БЦР, афіцэраў і жаўнераў Беларускай Краёвай Абароны, юнакоў і юначак Саюзу Беларускай Моладзі, усіх змагароў за вольную Беларусь.

Потым сп. А. Шнэк прачытаў прывітаньне ад Краёвага Штабу Беларускага Вызвольнага Фронту. Затым сп. Янка Барысевіч прачытаў зьмястоўны даклад на тэму дня. Наступна прысутныя выказалі свае погляды на сытуацыю ў сёньняшняй Беларусі.

Мастацкая частка складалася з дэклямацыі вершаў спн. Вераю Шайпак і сп. Аўгенам Грушам.

На заканчэньне прысутныя пад музычны акампанэмэнт прасьпявалі беларускі нацыянальны гімн "Мы выйдзем шчыльнымі радамі",

Пасьля афіцыйнай часткі ўдзельнікі сьвяткаваньня ў таварыскай бяседзе з пачастункам, прыгатаваным сябрамі БЦК, правялі рэшту дня.

*Алег ШНЭК, Аўстралія*

# Microsoft прызнала беларускую мову

Кампанія Microsoft паабяцала ўключыць беларускую мову ў стандартны набор моваў, якія падтрымліваюцца ў тэкставым рэдактары MS Word. Пра гэта паведаміў Сяргей. Кручкоў, намесьнік старшыні Таварыства беларускай мовы: "Раней яны казалі, што гэта нямэтазгодна, але цяпер пагадзіліся з намі. Беларуская мова ўвойдзе ў стандартны набор, куды кампанія ўключыла каля 30 моваў сьвету".

Распрацаваная зь ініцыятывы ТБМ праграма праверкі артаграфіі беларускае мовы "Літара 1.0" ёсьць найбольшым электронным слоўнікам беларускае мовы ў сьвеце. Унікальнасьць "Літары" і ў тым, што яна абыймае афіцыйную й клясычную традыцыі правапісу. У слоўнік уключана больш за 2 млн. славаформаў для кожнага варыянту правапісу.

Рашэньне Microsoft азначае, што беларуская мова будзе абслугоўвацца асноўнымі тэкставымі рэдактарамі. Шкада толькі, што дзеля гэтага нічагуткі не зрабіла цяперашняя беларуская дзяржава. Усе суседнія дзяржавы фінансуюць такія праекты й лябіруюць іх на міжнароднай арэне, бо развітая нацыянальная мова - адзін з падмуркаў сувэрэнітэту й міжнароднага аўтарытэту краіны".

*Прэс-служба Партыі БНФ*

# Беларусь за месяц

## Акцыя 21 ліпеня

Як паведамляў "Беларус", 21 ліпеня апазыцыя мелася зладзіць у Менску масавую акцыю, прысьвечаную 10 гадам кіраваньня Лукашэнкі. Галоўным лёзунгам гэтае акцыі было-б нешта накшталт «Лукашэнка! Накіраваўся? Сыходзь!» Меркавалася, што на мітынг зьбярэцца некалькі дзясяткаў тысяч. Сабралося ў 10 разоў меней, але і ўлада павяла сябе надта па-хамску.

Нягледзячы на тое, што збор на плошчы Якуба Коласа быў забаронены, там сабралося некалькі сотняў чалавек. АМАП пачаў зачыстку, затрымаўшы больш за 50 зь іх. Большасьць затрыманых складала моладзь, зьбольшага сябры руху "Зубр".

Астатнія ўдзельнікі акцыі рушылі да плошчы Бангалор, дзе і адбыўся дазволены мітынг. Усяго там сабралася, па розных падліках ад 1500 да 4000 чалавек. Пасьля акцыі, якая скончылася позна ўвечары, міліцыя вырашыла "пажартаваць". Пагрузіла некалькі "зуброў" у аўтобусы й адвезла ... у раён Курапатаў. Маладыя людзі вярталіся ў горад пешкі.

На наступны дзень, 22 ліпеня, адбыліся суды над затрыманымі на плошчы Якуба Коласа. Каардынатар "Хартыі'97" Зьміцер Бандарэнка атрымаў 15 сутак, Яўген Афнагель — 10 сутак, астатнія затрыманыя розныя выракі — ад 3 да 10 сутак, ці штрафы ў 10 — 30 базавых велічыняў.

Між тым, адразу пасьля акцыі пагроза навісла над карэспандэнтам каналу "Расея" Дзмітрыем Пятровым. Па словах міністра ўнутраных справаў Уладзімера Навумава, журналіст сказіў інфармацыю пра акцыю. Пятроў назваў колькасьць удзельнікаў акцыі у межах ад 2 да 4 тысяч, калі ў мітынгу, на думку міліцыі, усе былі дакладна падлічаныя — і апазыцыя, і міліцыя, і журналісты. Усяго было 193 чалавекі. МЗС Беларусі настойвала на тым, каб журналіст прынёс афіцыйныя прабачэньні, інакш яму пагражала дэпартацыя. У суботу, 23 ліпеня, беларускія ўлады зачынілі карпункт каналу "Расея".

## Стартавала выбарчая кампанія

14 ліпеня Аляксандар Лукашэнка падпісаў загад аб прызначэньні на 17 кастрычніка выбараў у Палату прадстаўнікоў нацыянальнага сходу Беларусі. Кожнаму кандыдату зь бюджэту будзе выдаткавана на перадвыбарчую кампанію 50 базавых велічыняў (на сёньня гэта складае 950 тысяч рублёў, ці $450). Калі будуць выкарыстаныя іншыя сродкі — кандыдата могуць зьняць з "дыстанцыі".

Ня гледзячы на такія ўмовы, беларускія партыі з энтузыязмам паставіліся да будучай кампаніі. Адразу заявілі пра намер узяць ўдзел у парляманцкіх выбарах прадстаўнікі "Народнае кааліцыі 5+", якая, нагадаем, аб'ядноўвае Аб'едналую грамадзянскую партыю (АГП), Беларускую партыю працы, Беларускую сацыял-дэмакратычную Грамаду, Партыю БНФ, Партыю камуністаў Беларусі (ПКБ) ды некалькі дзесяткаў грамадзкіх арганізацыяў. Так, АГП мае намер выставіць у 110 выбарчых акругах 55 сваіх кандыдатаў, Партыя БНФ — 60, ПКБ — 39.

Сябры гэтых партыяў заяўляюць калі не пра перамогу на выбарах, то, прынамсі, пра намер сваім удзелам у кампаніі паказаць, што ёсьць альтэрнатыва даўно ўсім абрыдлай уладзе. Ды лішнім разам выкарыстаць выбары як трэніроўку перад прэзыдэнцкімі таксама някепска.

Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі — БНФ чарговым разам заклікаюць байкатаваць галасаваньне. Тым часам Незалежны інстытут сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў НІСЭПД — арганізацыя, што займаецца сацыялягічнымі дасьледаваньнямі ў Беларусі — правёў у чэрвені апытаньне, паводле якога больш за 60 адсоткаў насельніцтва краіны мае намер узяць удзел у выбарах. А вось байкот падтрымлівае толькі 10 адсоткаў насельніцтва.

## Рэфэрэндум будзе?

Ці можа быць праведзены рэфэрэндум аб трэцім прэзыдэнцкім тэрміне Лукашэнкі?

Сакратар Цэнтральнай камісіі Рэспублікі Беларусь па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў Мікалай Лазавік заявіў 21 ліпеня, што гэта магчыма ў тым выпадку, калі ініцыятыва сыходзіць ад прэзыдэнта. Да гэтага, адзначым, неаднакроць заяўлялася, што пасьля прызначэньня выбараў у парлямэнт, правесьці ў гэтыя тэрміны плебісцыт немагчыма.

Цяпер, паводле словаў Лазавіка, Цэнтарвыбаркаму патрабуецца 45 дзён, каб арганізаваць усе мерапрыемствы.

## Запазычанасьць Расеі

На 1 ліпеня завінавачанасьць Беларусі за імпартаваны расейскі газ скарацілася на 51,5 млн. рублёў і склала 140,5 млн. рублёў. Праўда, днямі Расея выдзеліла новы крэдыт Беларусі для аплаты газу (175 млн. рублёў), які давядзецца аддаваць цягам некалькіх гадоў.

## Прагнозы наконт даляру

Старшыня Нацбанку Беларусі Пятро Пракаповіч паабяцаў, што пад канец году курс амэрыканскага даляру не перавысіць 2.200 беларускіх рублёў, а на 1 студзеня 2006 году — 2.300 рублёў. Пры канцы ліпеня паводле курсу Нацыянальнага банку за адзін даляр давалі 2.157 — 2.160 рублёў.

Але адзначым дзьве рэчы. У 90-х гадах наш рубель дэмінаваўся двойчы, спачатку адрэзалі адзін нуль, а потым, узяўшы пад увагу шалёную інфляцыю, дэнамінавалі яшчэ ў 1.000 разоў. Каб не было тых дэнамінацыяў, зараз курс даляра складаў-бы 21 млн. 580 тысяч рублёў. Таксама ня варта забываць, што інфляцыя ў Беларусі застаецца найвышэйшаю сярод краінаў СНД. Са студзеня спажывецкія цэны выраслі на 8 адсоткаў.

## Падвышаюцца пэнсіі

1 жніўня ў Беларусі былі падвышаныя пэнсіі. Мінімальная працоўная — на 14%, максымальная працоўная — на 18,3%. Цяпер мінімальны памер працоўнай пэнсіі ў месяц складзе 84 тысячы 480 рублёў ($39,1). Мінімальная па ўзросьце — 32 тысячы 98 рублёў ($14,9!). Максымальная пэнсія для тых, хто не працуюць, — 257 тысяч 990 рублёў ($119,4), максымальны памер для тых, хто працуе, — 187 тысяч 270 рублёў ($86,7).

## Крыху пра культуру

Другі раз запар беларусы заваёўваюць галоўны прыз на Міжнародным фэстывалі мастацтваў "Славянскі базар" у Віцебску. Вось і сёлета ў конкурсе маладых выканаўцаў перамог прадстаўнік нашай краіны — Пятро Ялфімаў з Магілёву. У 2003 годзе гран-пры атрымаў Максім Сапацькоў.

*Уласны карэспандэнт*

# Аб сутнасьці падзеяў

Мы, беларусы, мусім усьведамляць, што нашае нацыянальнае становішча пагаршаецца. Але гэта ня робіцца само сабою. Гэта вынік таго, што нас нішчаць. Беларусь зьнішчаюць пасьлядоўна і мэтанакіравана, крок за крокам, год за годам, дзень за днём. У гэтым – галоўная тактыка расейскага гэбізму: разбурыць беларускае грамадзтва, сацыяльныя дачыненьні й культуру, каб завалодаць нашаю краінаю, яе тэрыторыяй і багацьцямі.

У апошнія два гады (пасьля адкрытага аб'яўленьня пуцінскай дактрыны інкарпарацыі Беларусі ў 2002 г.) галоўная задача і хаценьне Масквы ёсьць увядзеньне расейскіх грошай на нашай тэрыторыі. Палітычны (незаконны) механізм, які хоча выкарыстаць Масква для дасягненьня мэты, – прыняцьце так званага "канстытуцыйнага акту" незаконнай "саюзнай" дзяржавы шляхам правядзеньня рэфэрэндуму ў Беларусі. ("Канстытуцыйны акт" дазволіў-бы ўвесьці ў Беларусі расейскія грошы. Увядзеньне расейскіх грошай зьнішчыла-б беларускі суверэнітэт.)

Рэфэрэндум меркавалі правесьці ў мінулым годзе, але адклалі, бо недастаткова падрыхтаваліся. Цяпер такая падрыхтоўка зробленая. З мэтаю ўвядзеньня беларусаў у зман, разыграны шэраг паказных акцыяў (тыпу "газавай вайны"), узгодненых "канфліктаў", фальшывых заяваў аб нібыта "пахаваньні" ідэі пераходу на расейскі рубель і г. д. Спэцыяльна да гэтай маніпуляцыі расейская дзяржаўная Дума і лукашэнкавыя "палаты" скарэктавалі законы пра рэфэрэндумы. Цяпер і Пуцін, і Лукашэнка могуць самастойна прызначыць рэфэрэндум, калі захочуць (хоць назаўтра пасьля сваёй пастановы).

Рашаючым момантам у крамлёўскай тактыцы павінны стаць сёлетнія выбары ў лукашэнкаўскія "палаты", да прызнаньня якіх расейская дыпляматыя ўжо падрыхтавала адпаведным чынам заходніх палітыкаў. (Правядзеньне выбараў дае магчымасьць сумясьціць іх з рэфэрэндумам.)

У гэты-ж час пры дапамозе гэтых заходніх дэмакратаў-саюзьнікаў зноў інспіравана дзейнасьць "кіруемай апазыцыі" й агентуры ў агітацыі за "справядлівыя" выбары. (Для рэжыму важна, каб людзі прыйшлі галасаваць. Вынік галасаваньня – справа ўжо праверанай фальсыфікатарскай тэхнікі, якая знаходзіцца ў руках улады.)

Аднак моцным ударам па ўсёй гэтай ашуканцкай падрыхтоўцы да "выбараў" і "рэфэрэндуму" стала абгрунтаваная ў гэтай сітуацыі ідэя байкоту выбараў. Толькі байкот дае народу шанец на перамогу, магчымасьць адкінуць выбарчую камэдыю і авантуру з рэфэрэндумам. Усялякая-ж агітацыя, каб ісьці на заведама прайгранае галасаваньне (і тым самым спрыяць ворагам Беларусі) ёсьць у дадзеным выпадку дапамогаю Маскве і злачынствам супраць самых сябе. Тым больш, што "агітатары" ведаюць пра поўную бескантрольнасьць рэжыму і наканаваны вынік галасаваньня, самыя кажуць пра гэта, але – заклікаюць галасаваць (бо так хочуць іхныя ўсходнія і заходнія спонсары й часовыя прыяцелі).

Тым часам заява і аргумэнтацыя пра байкот моцна занепакоіла рэжым і функцыянэраў. Узьніклі контрамеры й шэраг імітацыяў у "вікаўскай апазыцыі", раскручваецца чарговы "праект Марыніч" (грамадзкасьць памятае яшчэ аналягічны "праект Чыгір" па разбурэньні БНФ), заклікаюць змагацца то "за абарону канстытуцыі", то за "лучшую жизнь", "за дэмакратычную Беларусь", "за новую Беларусь", зьяўляюцца ўсё "новыя" групы, але там адны й тыя-ж асобы – былыя савецкія намэнклятурныя функцыянэры.

Уздымаецца штучны вэрхал і шум, мэта якога – зглуміць ідэю байкоту, заглушыць усё жывое беларускае слова, затаптаць вызвольную палітыку беларускага Адраджэньня, пасеяць тлум у галовах і без таго дэзарыентаванай і бездапаможнай інтэлігенцыі.

На працягу чэрвеня пэўныя сродкі масавай інфармацыі ўзбуджана прапагандавалі дзіўную галадоўку трох палатачных дэпутатаў (дзіўную, бо некаторыя галадоўнікі ў часе галадоўкі хадзілі начаваць дахаты ў сям'ю, хадзілі па вуліцах, езьдзілі на могілкі і г. д.). Галадоўка адбывалася пад лёзунгам: "Нет – третьему сроку!", "За справедливые выборы!", "Свободу Мариничу!". Дзіўная галадоўка ня мела канкрэтнай пратэстнай арыентацыі на канкрэтныя структуры й рашэньні, а была (як выявілася) фактычна акцыяй супраць байкоту выбараў (хоць слова "байкот" не называлася). Яна сталася агітацыяй за восеньскія выбары ў лукашэнкавую "палату" (слоўца "за справядлівыя" ў дадзенай сытуацыі – пусты гук, камуфляж агітацыйнай ідэі).

Аб тым, што палатнікі сваёй акцыяй агітуюць ісьці на палатныя выбары, самы яны ўсе і неадназова засьведчылі ў сваіх інтэрв'ю журналістам. Можна паглядзець, напрыклад, "Інтэрнэт-канфэрэнцыю з галадоўнікамі" на старонцы радыё "Свабода" за 10 чэрвеня, дзе палатны дэпутат С. Скрабец кажа: "Мы хацелі-б прыцягнуць увагу людзей, якія пойдуць сёлета галасаваць на выбарах у Палату прадстаўнікоў. Мы хочам, каб яны прагаласавалі менавіта за тых кандыдатаў, якія не пабаяцца адстойваць іхныя інтарэсы ў Палаце прадстаўнікоў." Тое-ж самае казалі ўсе астатнія.

Пасьля заканчэньня акцыі галодныя агітатары тут-жа паехалі ў Маскву адчытацца ў адпаведных расейскіх структурах. (Нагадаем, што ў расейскай Думе няма больш ніякіх "дэмакратаў". Да каго-ж езьдзіць менская "дэмакратыя"?)

А вынікам усёй гэтай паказной акцыі стала абвяшчэньне палатнікамі-галадоўнікамі пра стварэньне чарговага "народнага руху" "За справядлівыя выбары". Пры тым асноўны галадоўнік генэрал В. Фралоў заявіў, што ён гатовы ўзначаліць гэты рух.

Гэта не апошні выверт, разыграны генэраламі й прамаскоўскай "дэмакратыяй". Такая іхняя роля ў крамлёўскай агрэсіі ў Беларусі.

Аднак, зь дзеячамі гэтага накірунку няма сэнсу пра нешта гаварыць. Найлепшым нашым адказам можа стаць наш чын па сутнасьці. Гэта значыць – ня йсьці на падманныя выбары, ня йсьці на рэфэрэндум (калі яго навяжуць), ня йсьці галасаваць. У цяперашняй сітуацыі байкот – гэта адзіная зброя беларускага электарату, якой можна перамагчы чужынскую палітыку пры ўмове, калі дзейнічаць салідарна і дружна, калі рабіць у адно, думаючы пра будучыню і памятаючы пра Беларусь.

Пасьля пасьпяховага байкоту перад беларускім грамадзтвам адчыніцца магчымасьць арганізаваць новыя сапраўдныя выбары Беларускага Прэзыдэнта без удзелу Лукашэнкі (які ўжо вычарпаў усе сваё законныя і незаконныя магчымасьці). Гэтыя выбары павінны быць сапраўды свабоднымі й беларускімі, без умяшальніцтва расейскай і іншай чужынскай палітыкі.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# Беларуская замежная прэса і радыё

## Беларускі замежны інтэрнэт

Калі мяне папрасілі напісаць артыкул пра беларускі замежны інтэрнэт, па аналёгіі з сэрыяй тэкстаў пра прэсу і радыё дыяспары, я спачатку задумаўся. Сусьветнае сеціва, як сродак масавай інфармацыі істотна розьніцца ад прэсы й радыё. У гэтым пляне, галоўнаю ягонаю рысаю зьяўляецца глябальнасьць. Радыё, напрыклад, можна слухаць толькі ў абмежаванай мясцовасьці. Тое-ж самае з газэтаю - калі вы, прыкладам, апынуліся недзе ў Інданэзіі, то, канешне, можаце дамовіцца, каб вам дасылалі яе па пошце, але тады вам давядзецца ахвяраваць і апэратыўнасьцю інфармацыі, і, што дужа важна, эканамічнай мэтазгоднасьцю.

З інтэрнэтам-жа, ўсё наадварот. Калі толькі знайдзеце кампутар з далучэньнем да павуціньня, дык можаце адразу пайсьці на любую старонку, адрас якое вы ведаеце. Такім чынам, і беларускія, і замежныя вэб-праекты даступныя ўсім. Каб пачуць навіны зь Беларусі, сёньня дастаткова проста пайсьці на бачыну, напрыклад, беларускай службы Радыё Свабода (**svaboda.org**) ці якога іншага інфармацыйнага агенцтва. Можна нават паслухаць Свабоду праз інтэрнэт, калі дазваляе хуткасьць далучэньня. Дарэчы, паслухаць можна і радыёстанцыю Беларусь (дзяржаўнае радыё РБ) - зразумела, калі хопіць на гэта нэрваў, бо слухаць пра "неверагодныя посьпехі Беларусі" сёньня, мякка кажучы, непрыемна. Вялікі сьпіс разнастайных беларускіх старонак можна знайсьці на Беларускай Палічцы (**knihi.com/bib/staronki.html**). Таксама варта пагледзець Акавіту (**akavita.by**) - гэта ўжо сапраўды поўны лістынг белнэту.

Апрача гэтага пры дапамозе інтэрнэту можна лёгка і хутка камунікаваць са сваімі сваякамі ды сябрамі ў Беларусі й ва ўсім сьвеце. Усё гэта дазваляе нам у некаторай ступені пазбавіцца той адарванасьці ад Айчыны, якую адчувалі нашыя эмігранты некалькі дзесяцігодзьдзяў таму. Дарэчы, цудоўны праект ***Belarus Inside!*** (**by.org.by**), які робіць Яўген К., беларус з Каліфорніі, зьмяшчае вялікую колькасьць якасных фотаздымкаў розных мясьцінаў Беларусі - паглядзіце, мо там будзе і ваш дом. Наагул, шмат найлепшых беларускіх онлайн-праектаў робяць менавіта беларусы замежжа. Узяць хацяб ***Беларускую Палічку*** (**knihi.com**) з усімі ейнымі дадатковымі праектамі або старонку **pravapis.org**.

Такім чынам, гэты артыкул будзе агляддам тых праектаў, якія зьвязаныя з дыяспараю і ейнай дзейнасьцю. Якія старонкі варта наведаць беларусу за мяжою? Самая важная старонка для тых, хто хоча знайсьці суайчыньнікаў – **my.knihi.com**. Праект Беларускай Палічкі "Беларусы сьвету" дазваляе разьмяшчаць інфармацыю пра сваё месцазнаходжаньне і кантакты. Такім чынам, праглядаючы разьдзел для вашай краіны, вы ўбачыце, хто жыве недалёка ад вас. Пра гэты праект даводзілася чуць шмат станоўчых водгукаў. Сам я сустрэўся зь беларускай дыяспарай менавіта праз "Беларусаў сьвету".

**Zbsb.org** – Партал Згуртаваньня Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына". Вельмі добры сайт, які зьмяшчае шмат карыснай інфармацыі. Напрыклад, там можна знайсьці сьпіс сусьветных беларускіх цэнтраў - дамоў, цэркваў, бібліятэкаў, аддзелаў і г. д. "Бацькаўшчына" выпускае бюлетэнь ***Беларусы ў сьвеце***, пра асноўныя падзеі ў дыяспары.

Старонка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня – **baza-belarus.org**. Зьмяшчае артыкулы й разнастайную інфармацыю пра БАЗА. Асабліва варта паглядзець яе, каб даведацца пра мерапрыемствы, што ладзяцца арганізацыяй - сходы, імпрэзы, сьвяткаваньні, пікеты ды іншае. Калі вы жывяце ў ЗША, то, магчыма, таксама захочаце прыняць у іх удзел.

Задзіночаньнем выдаецца часапіс *Belarusian Review* (**www.belarusianreview.org**). Старонку зрабіў Андрэй Рамашэўскім у Чэхіі.

**Bielarus.org** – гэта, як вы здагадаліся, онляйн-вэрсія нашае газэты. Цяпер на нашым сайце ёсьць і крама, дзе можна замовіць беларускія кнігі й дыскі. Гаворачы пра Злучаныя Штаты, можна таксама згадаць Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (Запісы БІНіМ: **belarus8.tripod.com/ZapisyBINIM/zapisy.htm**). Зь Беларусьсю зьвязаны й Паўночна-Амэрыканская Асацыяцыя Вывучэньня Беларушчыны (**www.belarusianstudies.org**)

Старонка **www.belarusians.co.uk** рэпрэзэнтуе беларусаў у Вялікай Брытаніі. Хоць на ёй і не разьмешчана шмат інфармацыі, усё-ж там ёсьць карысныя спасылкі й аб'явы пра іхную дзейнасьць. Яшчэ дзьве старонкі - лёнданскае беларускае бібліятэкі імя Ф. Скарыны (**www.skaryna.org**), паводле апісаньня, найбуйнейшай па-за межамі Беларусі калекцыі беларускіх кнігаў і пэрыёдыкі, і Беларускай Каталіцкай Місіі ў Англіі (**www.catholic.belarusians.co.uk**), якая "была створаная ў 1947 г. для душпастырскай працы для беларусаў, якія апынуліся ў Вялікабрытаніі пасьля Другой Сусьветнай Вайны", ня гледзечы на асобныя дамэны, хучэй зьяўляюцца адною, бо знаходзіцца на адным сэрвэры, і маюць вельмі падобны дызайн і досыць узаемных спасылак.

Вэб-старонка Беларускага Гістарычнага Згуртаваньня Аўстраліі **www.pic-knowl.com.au/homepages/viktor** хоць на першы погляд і багатая інфармацыяй (асабліва пра справы аўстралійскіх беларусаў), нажаль, ужо даўно не аднаўлялася, што сьведчыць пра яе закінутасьць (спадзяюся, я памыляюся). Гэта добра адлюстроўвае становішча беларускай дыяспары на тым кантынэньце – прадстаўнікі ранейшых хваляў адыходзяць, іхныя нашчадкі асымілююцца і забываюцца на беларускасьць, а новых эмігрантаў амаль няма, бо Аўстралія дужа ўзмацніла жорсткасьць сваіх іміграцыйных законаў.

Беларускасьць існуе і ў Расеі. Аддамо тамтэйшым суайчыньнікам належнае - цяжка, відаць, захоўваць сваю культуру, знаходзячыся ў самым цэнтры розных "трыадзінскіх" ідэяў. І хоць, нажаль, выразную большасьць беларусаў Расеі зь Беларусьсю аб'ядноўвае толькі тэрытарыяльнае і/або этнічнае паходжаньне, сярод іх усё-ж ёсьць людзі, верныя сваім нацыянальным каштоўнасьцям.

***"Беларуская Масква"*** - **maskva.com** - дынамічны праект Віктара Дзятліковіча, які не рэпрэзэнтуе ніякіх арганізацыяў, а проста прадстаўляе маскоўскую беларускасьць. Як пішацца на бачыне, Масква гэта зусім не беларускае места, але ёсьць невялікія выключэньні, і старонка - гід па іх. Акрамя даведніка па маскоўскіх беларускіх кутках, там ёсьць артыкулы, навіны, гумар, назіраньні маскоўскіх беларусаў і шмат іншага. Усё-ткі, прыемна ведаць, што нават у самым сэрцы Расеі існуе беларускае жыцьцё. На маю думку, гэта адзін зь лепшых сайтаў дыяспары.

Ячшэ адным "маскоўскім" сайтам зьяўляецца старонка Грамады Беларускае Культуры імя Францішка Скарыны места Масквы (**hramada.ru**), арганізацыі, якая існуе ўжо 15 год.

інтэрнэт-вэрсія www.bielarus.org
БЕЛАРУС
BIEŁARUS / Belarusan Newspaper in Free World
Published by the Belarusan American Ass'n Inc.
Жыве Беларусь!
Нумары | Весткі | Пра Газэту | Падпіска | Кантакты | Крама | Водгукі | Спасылкі
БЕЛАРУС
падпішыся праз нас!
>>>
ПАКІНЬЦЕ ВОДГУК АБ ГАЗЭЦЕ
ЗАЗІРНЕЦЕ Ў НАШУЮ КРАМУ
АПОШНІ НУМАР
Ліпень 2004 (№498)
АБ'ЯВЫ
Наступны сход Нью-Ёркскага аддзелу БАЗА мусіць адбыцца 14 жніўня, а 19:00, у Фундацыі Крэчэўскага па адрасе 166-34 Gothic Drive, Jamaica, NY. далей...
Таронцкі аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады запрашае Вас на 26-ю Сустрэчу Беларусаў Паўночнай Амэрыкі. далей...
4 верасьня 2004 года ў Бэльгіі адбудзецца Зьезд прадстаўнікоў беларускай палітычнай эміграцыі «апошняй хвалі». далей...

Вартая ўвагі старонка томскай арганізацыі Белыя Росы (**belorus.tomsk.ru**). Паводле іхнай інфармацыі, у Томскай вобласьці (Сібір) жыве 10 000 беларусаў і таксама абруселыя нашчадкі нашых перасяленцаў канца XIX – пачатку XX ст. ст.; мэта суполкі – "захаваньне нацыянальнае культуры, забеспячэньне духоўных патрэбаў беларускай дыяспары, умацаваньне сувязяў зь Беларусьсю". На старонцы прыемна бачыць беларускую мову, Пагоню і бел-чырвона-белы сьцяг.

Старонка беларусаў Санкт-Пецярбургу - "Kryniсa" (**www.geocities.com/Athens/Atlantis/8005**), напісаная лацінкаю. Сярод ейных публікацыяў ёсьць цікавы "Кароткі катэхізм беларускага патрыёта". Нажаль, за чатыры гады яна ні разу не аднаўлялася. Тое-ж самае можна сказаць і пра старонку беларусаў-каталікоў у Расеі (**www.carkva.narod.ru**), разьдзелы якой знаходзяцца "на рэканструкцыі" з 2001 году. Для тых, хто ня ведае, патлумачу: калі сайт зачыняецца "на рэканструкцыю", гэта фактычна значыць што ён зачыняецца пэрманэнтна.

Шмат беларусаў апынулася ў Чэхіі. Пра іх жыцьцё ў гэтай краіне можна даведацца са старонкі Беларускага Цэнтру ў Празе (**www.belcentrum.org**). Гэта адная з нешматлікіх старонак, на якой мёсьць нямала інфармацыі. Напрыклад, ёсьць разьдзел Інфасэрвіс з уласнымі й перакладзенымі артыкуламі, якія маюць дачыненьне да Ўсходняй Эўропы. Нажаль, іншыя "чэскія" сайты, напрыклад, **belarus.cz**, **belabroad.com** зьніклі.

У Швэцыі добра працуе інтэрнэт-часапіс **www.vitryssland.nu**. Рэдактар яго ведамая швэдзкая журналістка Марыя Содэрбэрг. У выданьні разнастайныя навіны зь Беларусі, супольныя беларуска-швэдзкія праекты, артыкулы з гісторы беларуска-швэдзкіх кантактаў. Інтэрнэтгазэту **www.belarus.nu** з апошнімі палітычнымі навінамі выдаюць маладыя сацыял-дэмакраты Швэцыі.

Маладыя палітычныя ўцекачы апошняй хвалі, асноўна ў Бэльгіі, заснавалі старонку **www.razam.org**. На ёй можна знайсьці сьвежыя весткі й фатаграфіі з дэманстрацыяў і пікетаў, якія яны праводзяць у розных гарадох Эўропы.

І нарэшце, беларусам Нямеччыны належыць старонка Задзіночаньня Беларускай Моладзі Замежжа (**www.zbmz.org**), імі-ж робіцца "Партал Беларускай Дыяспары" (**belarusy.com**), з добраю падборкаю артыкулаў з розных крыніцаў (нажаль, амаль усе яны на расейскай мове), форумам. Старонка праекту ЗБМЗ мае ўсе ўласьцівыя для такога сайту разьдзелы. Да таго-ж стваральнікі яе, падобна, намагаюцца неяк аб'яднаць асобных людзей. Для гэтага былі створаны асобны рахунак на старонцы **livejournal.com**, zbmz, у сябры якога дадаюцца рахункі (з таго-ж "Жывога журналу") маладых беларусаў замежжа – гэты дзёньнік у іх нават зьяўляецца стартавай старонкай. Увогуле, праект "Жывы журнал" (**livejournal.com**) таксама варта згадаць. Гэта найбольш папулярны сэрвіс бясплатных онляйн-дзёньнікаў, і, як можна здагадацца, рахункі там трымаюць шмат беларусаў, у тым ліку і замежных. Спэцыяльна былі створаныя рахункі *all_belarus* (сьпіс беларускіх карыстальнікаў), і *bielarusy* (сьпіс беларускамоўных).

Асобная размова – беларусы Польшы й Летувы. Асобная, бо ў гэтых краінах, як і ў Латвіі, беларусы зьяўляюцца карэнным насельніцтвам, якое апынулася за мяжою толькі дзякуючы геапалітыцы Крамля. У Польшчы, гэта перш за ўсё старонка тамтэйшай штотыднёвай беларускай газэты "Ніва" (**niva.iig.pl**). Камунікат (**republika.pl/kamunikat**) – багатая інтэрнэт бібліятэка. Польскамоўная старонка Bialorus.pl зьяўляецца вялікім паўнавартасным парталам, прысьвечаным Беларусі. Яшчэ адзін рэсурс – Беларускае Аб'еднаньне Студэнтаў у Варшаве (**www.basvas.republika.pl**).

У Летуве, гэта **vilnia.com**, беларускі інфармацыйны цэнтар, старонка газэты беларусаў Летувы "Рунь" (**www.runbel.lt**). Ёсьць таксама старонка цэнтру "Крок" (**www.tts.lt/~oliya/krok**). Апошні даўно не аднаўляўся і сустракае наведвальнікаў чырвона-зялёнымі сьцягамі. Не зразумела, ці то стваральнікам бракавала сьвядомасьці, ці то яны маюць дачыненьне да афіцыйнага ўраду. Хучэй першае, бо старонка акрамя спасылак на дзяржаўныя рэсурсы мае спасылкі ня толькі на дэмакратычныя, але і на нацыянальна-радыкальныя рэсурсы.

Стан інтэрнэт-старонак дыяспары паказвае ейнае агульнае становішча. З адмоўнага можна назваць тое, што ўсё робіцца на ўласнай ініцыятыве, бясплатна, хто як умее. Мноства старонак знаходзяцца на бясплатных гостынгах, зробленыя непрафэсійна, даўно не аднаўляліся. Можна знайсьці старыя спасылкі, якія вядуць на ўжо выдаленыя рэсурсы. Так, напрыклад, зьнікла старонка Згуртаваньня Беларусаў Канады. Або, старонка Беларусаў Эстоніі "Грунвальд" (**www.ngonet.ee/eva**) зышла на "рэканструкцыю", хаця там і пададзены іхны адрас у Таліне. У цэлым-жа беларуская дыяспара прадстаўленая ў Інтэрнэце задавальняюча, многія рэсурсы маюць свае дамэны, інтэрактыўнасьць і рэгулярна падтрымліваюцца. Застаецца толькі пажадаць усім посьпехаў і спадзявацца, што сярод новай хвалі знойдуцца людзі прафэсійныя, сьвядомыя і ініцыятыўныя.

***Юрась МІХЕД***

*Далёка ня ўсе беларускія замежныя інтэрнэт-старонкі былі пералічаныя ў гэтым артыкуле. Каго абмінулі, просім прабачэньня, а чытачоў "Беларуса" просім дасылаць адрасы старонак, якія не былі ўзгаданыя.*





# Весткі й Паведамленьні

нью ёркаўскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае сеціва: www.baza-belarus.org №8 (463)



## Ліпеньскі сход аддзелу БАЗА

Чарговы сход нью ёрскага аддзелу БАЗА адбыўся 10 ліпеня. Напачатку старшыня аддзелу сп. Віталь Зайка азнаёміў прысутных з кароткім аглядам падзеяў апошняга месяцу ў Беларусі. Адною з галаўнейшых падзеяў была спроба трох дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў (група "Рэспубліка") правесьці палітычную галадоўку і перахапіць ініцыятыву ў лідэрстве сярод апазыцыйных сілаў, што часткова мела посьпех. У Менску было з помпаю адзначанае сьвята пад назваю "Дзень незалежнасьці", прытарнаваная рэжымам да дня вызваленьня Менску ад немаў у 1944 годзе, і якая заўсёды ўжываецца рэжымам для індактрынацыі й прапаганды.

На 13-й сэсыі Парляманцкай асамблеі АБСЭ ў Эдынбургу (Шкотыя) адбыўся дзіўны віраж Рабочай групы па Беларусі: замест прыняцьця рэзалюцыі па Беларусі, праект якой ў рэзкай форме асуджаў рэжым Лукашэнкі, была падпісаная пагадняльніцкая сумесная дэклярацыя паміж Рабочай групай і афіцыйнай дэлегацыяй лукашэнкавага парляманту.

Затым з сваім аналізам апошніх падзеяў у Беларусі й вакол яе выступіў сп. Зянон Пазьняк. Ён адзначыў неспрыяльную міжнародную кан'юнктуру ў бягучы момант і заўважыў, што ў той час, як у Расеі ўладу канчаткова захапілі сьпецслужбы, што падаўляюць рэшты дэмакратычных свабодаў і песьцяць надзею інкарпарацыі Беларусі, Захад заняты канфліктам на Блізкім Усходзе і ў Іраку. Пакрокавая палітыка ў дачыненьнях з рэжымам Лукашэнкі, на якую зрабілі стаўку ЗША, цалкам разьвязвае рукі расейскай дыпляматыі й "супэр-партыі КГБ", што кіруе Расеяй. Прамоўца таксама скрытыкаваў удзельнікаў галадоўкі ў Менску, якая была скарыстана дзеля падняцьця ўласнага палітычнага рэйтынгу і праводзілася неналежным чынам, што кампраметуе ідэю палітычнай галадоўкі. Менавіта БНФ застаўся пасьлядоўным абаронцам дзяржаўнай незалежнасьці, нацыянальнай культуры й мовы, і людзей, што змагаюцца ў ягоных шэрагах трэба падтрымліваць і дапамагаць ім.

Старшыня Галоўнай управы БАЗА. сп. Антон Шукелойць падзяліўся з прысутнымі сваімі ўспамінамі пра Другі Ўсебеларускі кангрэс, які адбыўся ў Менску 60 год таму, 27-29 чэрвеня 1944 году. Сп. Шукелойць ня толькі быў прысутны на Кангрэсе, але і браў удзел у ягонай падрыхтоўцы, працуючы ў камісіі па выбарах дэлегатаў ад Палесься. Даўшы кароткі агляд гісторыі беларускага адраджэньня, прамоўца спыніўся на падзеях Другой сусьветнай вайны й абставінах скліканьня Кангрэсу. Ён адзначыў, што ва ўмовах акупацыі выбары не маглі праходзіць дэмакратычна. Але склад абраных быў такі прадстаўнічы, улучаючы столькі паважаных і адданых Бацькаўшчыне асобаў, што пры дэмакратычных выбарах вынік быў бы ненашмат іншы. Дэпутатамі Кангрэсу сталі патрыёты, ахвярныя і адважныя людзі — дарэчы, савецкія партызаны па загаду з Масквы называлі Кангрэс "фашыстоўскай акцыяй", імкнуліся сарваць выбары, зьнішчыць дэлегатаў. Калі нарэшце больш за 2000 прадстаўнікоў беларускага народу сабраліся ў Менску, яны рашуча выказалі намер спыніць расейскае панаваньне ў Беларусі й заявілі аб патрэбе незалежнай беларускай дзяржавы. Ніхто з прысутных ня меў ілюзіяў на падтрымку беларускай незалежнасьці ані з нямецкага, ані з расейскага боку. Спадзявацца можна было толькі на свае сілы, як гэта не здавалася-б у той час безнадзейна. Беларускія дзеячы, што ўваходзілі ў склад нямецкай адміністрацыі, ва ўмовах акупацыі зрабілі шмат для эканамічнай і харчовай дапамогі жыхарам Беларусі. Структуры кшталту "Беларускай Самапомачы" былі фактычна адзіным асяродкам, дзе беженцы, людзі страціўшыя здароў'е, хату, кармільца маглі атрымаць дапамогу. "Самапомач", як і СБМ, і БЦР, праводзіла нацыянальную беларускую працу, і гэта галоўнае, чаго не маглі дараваць Саветы, а сёньня пост-савецкія ўлады, рэжым Лукашэнкі. Але Другі Ўсебеларускі Кангрэс адбыўся, ён выказаў волю народу да самастойнага жыцьця, ён выканаў сваю задачу, паспрыяў кансалідацыі беларускіх сілаў, што апынуліся пасьля вайны за межамі Бацькаўшчыны. І таму гэтая падзея вартая застацца ў нашай памяці й заняць належнае месца ў беларускай гісторыі.

Пасьля, у разьдзеле "Рознае" прысутныя выслухалі аб'явы й паведамленьні, пазнаёміліся з гасьцямі аддзелу, сярод якіх быў карэспандэнт газэты "Наша Ніва" Кастусь Лашкевіч. Пры каве і прысмаках затым прайшла таварыская частка імпрэзы.

**Віталь ЗАЙКА**

## Купальле па-амэрыкансdefinitely

Пара летняга сонцастаяньня і пачатак астралягічнага лета прыпадае на 21-25 чэрвеня. Гэта час, калі зьдзяйсьняецца кармічная сувязь беларусаў з сваімі продкамі, калі ўмацоўваюцца радавыя традыцыі. Відаць, гэта душы нашых продкаў штогод голасна клічуць нас у гэты час выйсьці ўночы на сувязь зь імі, зь квітнеючай прыродай і Сусьветам, каб уславіць жыцьцё і прыгажосьць Сьвету.

Што і казаць, далёка закінуў нас лёс ад краіны бацькоў. А чужыя зямля і людзі на ёй зь іх звычаямі зрабілі на кожнага з нас свой уплыў. Ды ўсё-ж ня ўсе мы так асімляваліся. На заклік Алены й Пятра Рыжых, якія ўжо трэці год запар бяруць на сябе арганізацыйны й не малы клопат пошукаў пляцоўкі пад купальскае вогнішча, як і дазволу на яго распальваньне, ды шмат іншых праблемаў, за што ім паклон і вялікі дзякуй, на амэрыканскае Купальле сабралася ня так ужо і мала беларусаў.

У шыкоўным парку-запаведніку, які раскінуўся ў трыццаці мілях на поўнач ад Нью Ёрку, за намі былі замацаваныя тры пагоркі. На кожным зь іх – па стылізаванай пад вясковую хатку-навесу пабудове з ужо пацямнелага ад часу бярвеньня, каб было дзе схавацца на выпадак дажджу. Паміж пагоркаў разьляглася вялізная паляна з травою па пояс, сярод якой красаваўся вялічэзны разгалісты дуб, хоць і ня нашае пароды. Вось да яго і пабеглі шпарка зь вясёлым сьмехам падлеткі, учыніўшы гульні, пакуль бацькі былі занятыя больш паважнай справай – падрыхтоўкаю вогнішча і купальскай вячэрай.

Праблема была ў тым, што многія з прысутных ня толькі ня ведалі абраду, але шмат хто і не размаўлялі па-беларуску, хоць збольшага разумелі мову. Да таго-ж атрымаўся не зусім традыцыйны ўзростава падзел на бацькоў і дзяцей. Самой моладзі было малавата, але як распалілі вогнішча з замацаваным на шасьце колам, упрыгожаным бел-чырвона-белымі стужкамі, усе сталі ў кола, пабраліся за рукі. Як я зацягнула:

*А ў нас сёньня,*
*А ў на-га-с сёньня-га Купа-га-лачка,*
*Ку-гу-па-га-лачка!*

- то ўсе дружна і старанна антыфонам пачалі паўтараць кожны радок. Так і пайшло: радок – запявала, паўтор – хорам. Усе адчувалі адказнасьць, урачыстасьць падзеі й дужа стараліся. Вышыванкі й вяночкі на галовах надавалі пэўны шарм і настрой. Песьні зьмяняліся песьнямі-карагодамі. Спалілі й ведзьму-Мару-Купалу. Потым прычасьціліся духмяным гарачым крупнікам, а сёй-той і ня раз.

Сытуацыю разам са мною дужа выручалі Руслан Малахоўскі, Марат Клакоцкі, былыя ўдзельнікі танцавальнага ансамблю "Васілёк" Ганна Бартуль, Віктар Тур, Пятро Рыжы з жонкаю Аленаю, Мікола Бахар, старанна падцягваў Юрка Кіпель з сынамі, а таксама Сяржук Сокалаў-Воюш з сынамі Сьвятавітам і Славамірам. Астатнія стараліся, як маглі, і былі ў захапленьні, бо дагэтуль нічога падобнага ня бачылі й ня чулі, а тым больш ня ўдзельнічалі.

Завялі новы карагод "У Кузьмы на дварочку", і тут сям'я Юркі Кіпеля ў самы разгар вырашыла ад'яжджаць, на разьвітаньне перацалаваўшы кожнага карагодніка. Зь імі ад'ехаў не ма-

Працяг на бач. 7



На здымку: В. Якімовіч спальвае ведзьму.

## Наступны сход

нью ёркаўскага аддзелу БАЗА адбудзецца 14 жніўня 2004 г. ў залі Фундацыі імя П. Крэчэўскага па адрасу:

**166-34 GOTHIC DR., JAMAICA**

Даезд цягніком падземкі F да прыпынку *169th Street.* Прайсьці потым ад станцыі два блёкі на поўнач да скрыжаваньня *167 Street* і *Gothic Drive*, дзе на іх скрыжаваньні знаходзіцца будынак Фундацыі.

Даезд аўтам з Брукліну і Мангэтану па *Grand Central Parkway* да зьезду *Parsons Blvd*, тады па сэрвіс роўд да *168 Street* і па ёй зьвярнуць управа каля будынку школы, на *Готык Драйв* зьвярнуць зноў направа. На скрыжаваньні *Gothic Drive* і *167 Street* стаіць будынак Фундацыі, які можна лёгка казнаць па бел-чырвона-белым сьцягу ля дзьвярэй.

Запрашаем сяброў аддзелу і ўсіх зацікаўленых.

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**

*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*

**Чэкі выпісвайце на *Belarusan American Association.***

# Дзяржстандарт на шчасьце

Некалькі гадоў таму назад у Беларусь прыехаў аўстрыйскі бізнэсмэн. Уклаўшы уласныя сродкі ў пабудову мясакамбінату, пачаў займацца канкрэтнаю справаю па разьвіцьці мясной вытворчасьці. У хуткім часе выробленая на ягоным міні-прадпрыемстве каўбаса ня стала адпавядаць устаноўленаму дзяржстандарту – яна пераўзыходзіла яго па якасьці. Замест таго, каб перагледзець нормы стандарту ўлады аўстрыйца аштрафавалі. Пазьней зьмясцілі з пасады дырэктара, пачалі падганяць яго, як асобу, пад бязьлікі беларускі стандарт. Страціўшы свае мільёны, ня вытрымаўшы маральнай зьнявагі й уціску, бізнэсмэн зьехаў на радзіму, каб напісаць кнігу аб парадках у Беларусі.

Я шмат паезьдзіла па сьвеце, шмат бачыла, але нарадзілася і жыву ў Беларусі, а таму сьцьвярджаю, што сёньня ў краіне дзяржстандарт устаноўлены ня толькі на каўбасу. Дзяржстандарт у выглядзе акамянелай застылай на гады глыбы, якая душыць, трушчыць, ламае парасткі новага, сёньня ахапіў усе сфэры нашага жыцьця. У краіне існуе ДЗЯРЖСТАНДАРТ

1. БЫТАВОГА ЖЫЦЬЦЯ: хранічны рэжым жорсткай эканоміі на сабе. Простыя беларусы эканомяць на ежы, рэчах першай неабходнасьці, на адпачынку, леках, нават на нараджальнасьці. Падобны рэжым эканоміі ператварае нават міласэрдную справу, напрыклад донарства крыві, у звычайны заробак.

Больш таго, грамадзяне краіны пастаўленыя ў адну бясконцую чаргу па непрыемнасьці, праблемы, хваробы. Чарга рухаецца даволі хутка, бо такога "дабра" ў Беларусі шмат, яго хапае на ўсіх, і гэта, без сумніву, заслуга ўладаў. А вось радасьць і шчасьце ўладаю лімітаваныя. Імі ўлада ўзнагароджвае, як і раней, за "асабістыя" заслугі, патроху, з-пад палы.

2. АХОВЫ ЗДАРОЎ'Я: эксперымэнт на выжываньне. Чэргі з крамаў перамясьціліся ў аптэкі, паліклінікі, шпіталі. У прорву вечнасьці валіцца самы прадуктыўны ўзрост: 35-55 гадоў. "Асаблівы шлях разьвіцьця" нішчыць людзей без вайны. Дзесяць мільёнаў жыхароў – гэта ўчарашні дзень Беларусі.

3. КУЛЬТУРЫ, АДУКАЦЫІ, НАВУКІ: няма пракокаў у Айчыне сваёй. Прызнаным у сьвеце беларусам, разумным, дзейным, вопытным, ініцыятыўным, заслужаным, у сваёй краіне адведзеная роля жабракоў і паўдурняў у бязьлікай масоўцы.

4. ПРАВА: закон, што дышла: як павярнуў – так і выйшла. Канстытуцыя ў Беларусі – гэта выходная вопратка кіраўніка краіны, а яна павінна быць рабочаю формаю для ўсіх грамадзянаў.

5. УЛАДЫ: утрыманцы ўсіх масьцей – прыстасоўвайцеся! Улада ў краіне ў ролі п'яўкі-крывасмока, якая вырашае свае праблемы за кошт людзей. На самой-жа справе ўлада ўсяго толькі нанятыя народам дворнік, які прыбірае сьмецьце там, дзе загадае наймальнік.

6. ГРАМАДЗТВА: надзвычайнае становішча – стабільнасьць краіны. Пры такой умове прыпынена ажыцьцяўленьне прадугледжаных Канстытуцыяй правоў і свабодаў беларусаў і разам з тым дадзеныя неабмежаваныя магчымасьці й улада аднаму чалавеку.

7. ЧАЛАВЕКА: я – колца, ты – мой вінцік. Такі падыход выключае наяўнасьць у краіне асобаў акрамя аднае, якая і распрацоўвае ўсе стандарты. Каб уяўляць сабою НЕКАГА, трэба быць НЕЧЫМ органам і безадказным "калцам і вінцікам" створанай сыстэмы безасабовасьці й бездухоўнасьці.

8. СЬВЯДОМАСЬЦІ: пракрустава ложа. Мысьленьне беларусаў павінна ўкладвацца ў рамкі "Асноваў нацыянальнай ідэалёгіі" ці рэгламэнтавацца "кнігаю прэзыдэнта, як асноўным вытокам мудрасьці". Неадпаведнасьць стандарту – падстава "хірургічнага" ўмяшальніцтва уладаў: непатрэбнае адсякаецца, зьнішчаецца. У выніку нацыя жыве з рабскаю сьвядомасьцю.

*Рабы сыстэмы і пасад, і званьняў,*
*Рабы мы плодзім і дзяцей рабой.*
*Такі ўжо лёс рабу наканаваны:*
*Не выбірае ён гаспадароў.*

9. ВЕРЫ: жывыя трупы. Вера ў Госпада замененая беларускім "мадэрнізмам" – праваслаўным атэізмам. Але пачуцьці чалавека нельга замяніць навуковымі тэорыямі, тым больш саматужнай вытворчасьці. У выніку многія беларусы адчуваюць сябе нябожчыкамі пры жыцьці, пра якіх думаць забаронена, а вяртаць да жыцьця пакуль няма каму.

10. НАЦЫІ: жыцьцё ў пазыку. Беларусы ў сваёй краіне ператвараюцца ў нацыянальную меншасьць, і каб існаваць пазычаюць чужую мову, чужыя звычаі, чужыя традыцыі, чужыя фінансы, чужыя мэтады гаспадараньня, чужы розум.

ШЧАСЬЦЯ: а ты любі мяне да сьлёз! Быць шчасьлівым у Беларусі значыць адпавядаць устаноўленым уладаю вышэй названым стандартам, з задавальненьнем укладаючыся ў чаговую прыдуманую мерку.

Цяпер разумееце, чаму ў нас пры агульнай ашчасьлівізацыі так шмат пакутнікаў?

**_Галіна СУТУЛА,_**
**_журналістка з Глыбокага_**

# У Кангрэсе ЗША




Палата прадстаўнікоў Кангрэсу ЗША аднагалосна прагаласавала за рэзалюцыю №652, што заклікае ўрад Беларусі забясьпечыць дэмакратычны, празрысты й справядлівы выбарчы працэс на парляманцкіх выбарах 17 кастрычніка. Цікавая акалічнасьць: рэзалюцыя заклікае балтыйскія і скандынаўскія краіны падтрымліваць беларускую дэмакратыю, а Расея ўвогуле не згадваецца.

Ініцыятарам рэзалюцыі выступіў кангрэсмэн Даглас Бэройтэр ад штату Нэбраска, яшчэ 16 іншых кангрэсмэнаў падпісаліся пад рэзалюцыяй. У часе абмеркаваньня рэзалюцыі прадстаўнік ад штату Каліфорнія Том Лэнтас запатрабаваў электроннае галасаваньне. Вынікам было аднагалоснае прыняцьце рэзалюцыі – 412 кангрэсмэнаў прагаласавалі "за".

У рэзалюцыі гаворыцца, што ўмоваю інтэграцыі Беларусі ў супольнасьць заходніх нацыяў ёсьць усталяваньне дэмакратычнай палітычнай сыстэмы.

Найбольш цікавым выглядае восьмы пункт рэзалюцыі, які заклікае міжнародную супольнасьць, і ў прыватнасьці Летуву ды іншыя балтыйскія і скандынаўскія краіны, падтрымліваць беларускія недзяржаўныя арганізацыі. Упершыню дакумэнт Кангрэсу, які разглядае беларускую сытуацыю, ня ўтрымлівае спасылак на Расею, а непасрэдна зьвязвае ўзаемадачыненьні дэмакратычных сілаў у Беларусі з паўночнаю Эўропаю.

**_Радыё Свабода_**

# Наша фанатэка

## Беларускасьць чорнага рэпу

**_"Пасадзіў DEAD RAPку/Rap Not Dead", М., 2004, "БМАgroup"._**




Толькі сапраўдны калекцыянэр зразумее тую асалоду, зь якою можна разглядаць на сваёй фанаграфічнай паліцы сэрыйныя выданьні. Вось і сэрыя стылістычных аўдыёэнцыкляпэдыяў року ў выдавецкага лэйблу "БМАgroup" відавочна атрымалася, бо вельмі зграбна і стылёва стаяць побач кампакты "Hardcoreманія: чаду!" (CD BMA 013), "Hard Life – Heavy Music" (CD BMA 008 і CD BMA 018), "Пасадзіў DEAD RAPку / Rap Not Dead" (CD BMA 029).

Цікава, што рабочыя назвы дыскаў гэтае сэрыі з тупалобых і грувасткіх ("Беларускі hardcore", "Беларускі hard'n'-heavy", "Беларускі rap") ператварыліся ў рамантычна-вобразныя і разам з тым вельмі ёмістыя. Сама назва тут – нібы малюнак з жыцьця, але чытаецца ў ёй і акрэсьленьне стылю, і мова выданьня.

Нехта мо падумае: няўжо выдаўцы накалупалі цэлы дыск беларускамоўнага рэпу? Сумненьні разьвейвае ўжо ў прадмове выданьня вядомы музычны крытык Анатоль Мяльгуй, які малюе структуру генэалёгіі й ідэалёгіі беларускага рэпу, а мне застаецца нагадаць, як руйнаваліся падобныя сумненьні й напачатку сэры, калі традыцыйныя прыхільнікі пэўных стыляў сумняваліся ў беларускасьць гэвімэтал музыкі, гардкору... Больш за тое, усе гэтыя зборнікі вызначаліся ня толькі шчыльнай запоўненасьцю (аж 80 хвілінаў), але і пільным адборам. Ужо на этапе сэлекцыі даводзілася адсейваць нямала прыстойных выканаўцаў кшталту гуртоў "Шляхта", "Dr. Szalik", "IQ48"... А каго-ж узялі?

Не абыйшлося, безумоўна, без галоўнага гурту ўсіх рэпераў наваколья А. Памідорава. У праграму ўвайшоў ня толькі ягоны геніяльны "Цуд на каляды", але і навейшы гіт "Дзень без гарэлкі", які перад тым з паўгоду лідыраваў у гіт-парадзе "Тузін гітоў" папулярнага інтэрнэт-парталу music.fromby.net.

Па-за тым А. Памідораў дапамог-жа яшчэ абеларусіць трэк нямецкага гурта "Die Federation", запісаўшы зь імі песьню "Новыя магчымасьці".

Дарэчы, немцы – не адзіныя замежныя ўдзельнікі гэтага беларускага (і беларускамоўнага) праекту. Напрыклад, "Step" з Польшчы ў сваёй чытанцы "Мне хочацца спаць" дае беларусам адчуць смак роднае мовы, хоць і з польскім акцэнтам ды расейскім жаргонам. А знакаміты ўкраінскі "Танок на майдані Конго" хоць сьпявае і на сваёй мове, але вітае беларусаў па-беларуску. Вось такі міжнародны ўплыў дэманструе "БМАgroup".

Пад такім аўтарытэтным узьдзеяньнем вярнуліся да роднае мовы ў гэтым альбоме нават тамтэйшыя славутыя касмапаліты рэпу – "Нестандартный вариант", "Наше дело" ды Серега & Сацура.

Як бачым, славутасьцяў шмат у альбоме. Нават супэр-зорка гранджу Лявон Вольскі прапісаўся тут. Але сапраўдныя мэга-гіты лёс падарыў ня толькі ім. Напрыклад, гурт "Please, Mr. Stahl", таму іхнюю песьню "Пасадзіў дзед рэпку" выдаўцы невыпадкова зрабілі загалоўным трэкам гэтага праекту. Бо гэта сапраўдны шэдэўр такога жанру. Праўда, калі я раскрыю вам маленькую таямнічку складу калектыву, усе дзівосы захіліць суровая рэальнасьць: "Please, Mr. Stahl" склалі славуты блюзмэн Андрэй Плясанаў ("P.L.A.N."), славуты мэталер Аляксей Шталянкоў (экс-"Deadmarsh") і юная вакалістка з клясычнай адукацыяй Аня Плясанава. Так што нядзіва, што ў іхным рэпе гучаць ня толькі сэмплты, але і жывыя фаготы, скрыпкі, гітары... Неверагодны шарм!

Ну а празрыстыя сацыяльна-палітычныя алегорыі невядомага праекту "Пан Жыжма" ў трэку "Гармата" тлумачацца трывалым рэпавым досьведам іхняга стваральніка Паўлюка "Фройда" Зыгмантовіча, які працаваў раней у папулярным "IQ48".

Праўда, ня буду сьцявярджаць, што гэты альбом суцэльна роўна-гладка-геніяльны па ўсёй паверхні кампакт-дыску, а хвалю я яго толькі, мауляў, з-за беларускай мовы. Вось акурат беларуская мова культае ў многіх.

Напрыклад, гурт "Шэрым па беламу" павінен ведаць, што пытаньне творнага склону (па кім? па чым?) патрабуе адказу "па белым", а не "па качану". Дый гурт "L-Dil", сьпяваючы "мы вам уступаем", павінен засьцерагчыся акурат не ўступіць у дрыгву, калі гаворка ў тэксьце пра іхнюю звышзычлівасьць ці саступкі.




Двойка вам усім за граматыку трэцяе клясы па роднай мове.

А сёй-той хоць і паднатарэў у мове, але ў тэкстах нязадольны адыйсьць яшчэ ад наіўнай патрыётыкі ("Сындыкат рафмы" з песьняй "Мір ва ўсім сьвеце", Чыманок з творам "Продкі" і г. д.). Патыятызм – сьвятая тэма, якую нельга вырашаць банальнымі сродкамі, а вучыцца можна ў Багдановіча, Караткевіча, Геніюш...

Вельмі сымбалічную мастацкую аздобу прапанаваў выдаўцам гэтага альбому пляменьнік легендарнай Паўлінкі, вядомы мастак і калекцыянэр Андрэй Плясанаў: помнік юнаму партызану Марату Казею ля ягонай хаты стаў сымбалем рашучасьці новага пакаленьня адстойваць свае ідэалы, як іхнія мужныя продкі, што засталіся назаўсёды юнымі. Rap not dead! Ніколі!!!

**_Вітаўт МАРТЫНЕНКА_**

**Каб замовіць гэты CD пошта дашліце $12 на адрас рэдакцыі "Беларуса".**

# Весткі зь Вільні

## Віленчукі падарожнічаюць у Беларусь

Рада Таварыства Беларускай Культуры ў Летуве, амаль у поўным складзе, зьдзейсьніла заплянаванае падарожжа па гістарычных мясьцінах Беларусі.

Раніцай 26 чэрвеня мікрааўтобусам выехалі зь Вільні й прыехалі ў сядзібу ЗБС "Бацькаўшчына", дзе нас ветліва сустрэлі сябры "Бацькаўшчыны" на чале з старшынёю Рады Аленаю Макоўскай. Ня гледзячы на неспрыяльнае надвор'е, амаль увесь дзень марасіў дождж, настрой быў вельмі добры. З дапамогаю А. Галіча, выдатнага экскурсавода і краязнаўца, наведалі Маскоўскія могілкі, дзе ўсклалі кветкі на магілу Васіля Быкава. Уся магіла нашага славутага пісьменьніка патанала ў жывых кветках і вянках, прынесеных народам свайму апосталу. Тут сустрэлі пісьменьніка Уладзіміра Някляева і гасьцей з Фінляндыі.

На Кальварыйскіх могілках ушанавалі памяць акадэміка Ўсевалада Ігнатоўскага ды іншых ведамых дзеячоў беларускага адраджэньня.

Наступны маршрут быў у Курапаты, дзе пакланіліся бязьвінным ахвярам бальшавіцкага варварства. Далей шлях ляжаў праз Барысаў да Бобра - радзіму ведамага беларускага мастака Алеся Пушкіна, дзе пазнаёміліся зь усёю ягонаю раднёю. Сам Алесь у гэты час знаходзіўся на працы ў Міхалішках. Знайсьці хату Пушкіна было ня цяжка, бо на фасадзе дому лунаў бел-чырвона-белы сьцяг. Мы ў захапленьні аглядалі як мастацкія творы А. Пушкіна, так і кожны элемент інтэр'еру дому, што меў непаўторны пушкінскі акцэнт.

Добра адпачыўшы накіраваліся ў Воршу. Там наведалі музей Уладзімера Караткевіча, ягоны прыгожы помнік у гарадзкім парку, дом дзе ён нарадзіўся і, канешне, сам горад. З Воршы рушылі да Віцебску. Гэты горад мае сусьветную славу, зьвязаную зь імём Марка Шагала. Агледзелі музэй М. Шагала, вельмі прыгожую скульптуру Уладзімера Караткевіча ў гарадзкім парку, шмат пахадзілі па горадзе.

Далей шлях ляжаў у Полацак. Там сустрэліся і бліжэй пазнаёміліся зь сямьёю Алеся Аркуша. Яны міла апекаваліся намі й разьмясьцілі ў сваім, з густам, адрэстаўраваным доме. Полацак вабіць сваёй гісторыяй, велічнымі царквою і касьцёлам. У Спаса-Еўфрасіньнеўскім манастыры прыкладаліся да мошчаў Сьв. Еўфрасіньні Полацкай і выслухалі аповяд пра яе жыцьцё.

Далей шлях ляжаў у Паставы й Міхалішкі, дзе сустрэлі А. Пушкіна, які рэстаўруе іконы ў мясцовым касьцёле.

Поўныя уражаньняў і добрага настрою, пасьля трох дзён падарожжа вярнуліся ў Вільню.

Нажаль, не абыйшлося без лыжкі дзёгцю. Падводзячы вынікі нашага падарожжа па гарадох і вёсках Беларусі з больлю ў сэрцы адзначаем пра трагічны стан галоўнага элемэнта культуры, асновы нацы - беларускай мовы, якой амаль нідзе ня чулі.



*Падарожнікі ў Спаса-Еўфрасіньеўскім манастыры.* *Х. НЮНЬКА*

## Пікетаваньне беларускай амбасады

Перад амбасадаю Рэспублікі Беларусь у Вільні 21 ліпеня 15 сяброў Таварыства беларускай культуры ў Летуве зладзілі пікет, каб выказаць нашыя адносіны да вынікаў палітыкі рэжыму, якім на працягу 10 гадоў кіруе Аляксандр Лукашэнка.

У сваіх выступах Х. Нюнька, Ю. Гіль, Г. Канашэвіч фактамі абгрунтавалі вялікую шкоду беларускай мове, культуры й нацыянальнаму адраджэньню, якую зрабіў існуючы рэжым.

Прысутныя з увагаю выслухалі зварот Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі сп. Івонкі Сурвіллы.

Пікет асьвятлялі тры тэлевізыйныя каналы Літоўскага тэлебачаньня.

***Хведар НЮНЬКА***




*Сябры ТБК ля будынка беларускай амбасады ў Вільні.*

# Сьвядомых беларусаў большае

Доктарскую дысэртацыю (у Беларусі яе *назвалі-б кандыдацкай*) з назваю "Віды нацыянальнай самасьвядомасьці. Партрэт беларусаў канца XX стагодзьдзя на аснове дасьледаваньняў у Менску і ваколіцах" абараніла ў чэрвені выкладчыца Варшаўскага ўнівэрсытэту, этноляг Катажына Вашчыньска. Яе захопленасьць нашаю краінаю пачалася ў пачатку 1990-х, студэнткаю яна пісала пра народную культуру польска-літоўска-беларускага памежжа. Цяпер штогод прывозіць на практыку ў Беларусь сваіх студэнтаў. Вывучыла нашую мову, закаханая ў *творчасьць Уладзімера Караткевіча* і зьяўляецца шчырай прыхільніцай беларускай незалежнасьці.

Праца над дысэртацыяй заняла амаль сем гадоў. У 1997–2000 гадох дасьледчыца праводзіла ў Менску і ваколіцах апытаньні-гутаркі з рознымі людзьмі паводле сваіх навукова распрацаваных схемаў. Запісаныя кілямэтры магнітафонных стужак. Сярод суразмоўцаў былі людзі рознага ўзросту і прафэсій, розных грамадзка-палітычнай арыентацыі, ураджэнцы ўсходніх і заходніх рэгіёнаў... Кожная асоба была лідэрам нейкай супольнасьці (працоўнага калектыву, партыі, грамадзкай арганізацыі й інш.), такім чынам выказваньне кожнага было як-бы шматкроць падтрыманае калегамі. (Апанэнты прызналі рэпрэзэнтатыўнасьць выбаркі, цалкам навуковы падыход да зьбіраньня зьвестак.) Натуральна, дасьледчыцай былі прачытаныя горы адпаведнай літаратуры на розных мовах. Бібліяграфія займае ў дысэртацыі 22 старонкі.

Катажына Вашчыньска мэтаю працы паставіла паказаць беларуса канца XX стагодзьдзя ў кантэксьце ягонай нацыянальнай самасьвядомасьці. Нават само азначэньне гэтага паняцьця зьяўляецца прадметам дыскусіі сярод вучоных, але таксама і сярод публіцыстаў (галоўным чынам – палітолягаў). Дамінуе ацэнка беларускай самасьвядомасьці як няяснай, няпэўнай. Тэза, якую адстойвае дасьледчыца, іншая: *існуе нацыянальная беларуская самасьвядомасьць*, яна знаходзіцца ў працэсе фармаваньня.

Прадбачу эмацыйную рэакцыю тых чытачоў, для каго нацыянальная самасьвядомасьць натуральная, як дыханьне. Але-ж гаворка ў дысэртацыі ідзе пра жыхароў Беларусі, якія дзесяцігодзьдзямі прапаганды й генацыду быліператвораныя ў савецкіх людзей, якіх афіцыйныя ўлады й сёньня імкнуцца трымаць у такой якасьці, пазбаўляючы роднай мовы, школы, гісторыі й культуры. Працэс самаўсьведамленьня ідзе насуперак уладам, ідзе марудна і непасьлядоўна. Нажаль...

Дасьледчыца спыняецца на такіх паняцьцях-азначэньнях, што існуюць у нашым грамадзкім жыцьці, як "сьвядомы беларус", "праўдзівы беларус", "савецкі беларус", "пашпартны беларус". Разглядае ў якасьці асобных велічыняў "беларускую савецкую культуру" і "беларускую беларускую культуру". Апошні тэрмін, дарэчы, зусім не таўталёгія.

Пераказаць у кароценькай нататцы дысэртацыю памерам амаль у 300 старонак немагчыма. Таму "выхаплю" з тэксту толькі пару прыкладаў.

У адказах на пытаньне, што пасадзейнічала ўсьведамленьню сябе беларусам, дамінуюць: літаратура (найперш творы Уладзімера Караткевіча, Янкі Купалы, Васіля Быкава), гісторыя, падарожжы й знаёмствы з памятнымі мясьцінамі Беларусі, удзел у культурных кантактах зь небеларусамі (*відаць, калі трэба было паказаць сваю адметнасьць – В. Т.*), знаёмства з групамі людзей, якія ўжо ўсьвядомілі сваю ідэнтычнасьць і дапамагаюць зрабіць гэта іншым. Далей ідзе развал СССР, абвяшчэньне незалежнасьці Беларусі, спроба рэбеларусізацыі – рэфэрэндум 1995 году. Мяркую, каб апытаньне вялося сёньня, у сьпісе фактараў уплыву былі-б і "газавая вайна" Расеі, і стойкасьць Беларускага ліцэю...

Важным чыньнікам выступае мова. Паводле апытаньня, масавая сьвядомасьць пад канец 1980-х гадоў беларускую мову трактавала выключна як мову вёскі і неадукаванай часткі грамадзтва. Расейскую лічыла моваю прэстыжу і посьпеху. Паступова гэтае стаўленьне мянялася. І ў канцы XX стагодзьдзя да тых двух пазыцыяў беларускай мовы масавая сьвядомасьць дадае палітычную апазыцыю, гуманітарную (пераважна) навуку і мастацтва. (*Зьвярніце ўвагу, што гэта ўсё элітарныя пазыцыі. – В.Т.*).

Абарона дысэртацыі прайшла бліскуча. І гэта радуе, бо падобную тэму дасьледаваньняў ня можа абраць у сучаснай Беларусі ніводзін навуковец. А так, дзякуючы абаяльнай варшавянцы, маем грунтоўнае і аб'ектыўнае навуковае сьведчаньне, выразны партрэт беларусаў канца XX стагодзьдзя. Высновы замежнай дасьледчыцы падмацоўваюць пазыцыі тых, хто змагаецца за паўнавартаснае жыцьцё беларускага грамадзтва, за ягонае натуральнае нацыянальнае аблічча.

***Валянціна ТРЫГУБОВІЧ***

## Купальле

*Працяг з бачыны 5*

лы гурт. Было відавочна, што не хапае дзявок і хлапцоў. Пачалі ўжо скакаць праз вогнішча, ды без маладых дзяўчат, якія скокі? Інтарэс ня той. І наша сьвята, неяк скамячыўшыся, паціху паратварылася ў пікнік зь песьнямі ля вогнішча. Сяржук Сокалаў-Воюш прасьпяваў цэлы канцэрт з песьняў новых і тых, якія напісаў напачатку Адраджэньня, у канцы 80-х – пачатку 90-х гадоў, нібы вярнуўшы нас у той час юнацтва і надзеяў. Яго падтрымоўваў Руслан Малахоўскі. Сыны Сяржука Сокалава-Воюша і Ганны Бартуль да апошняга ўдзельнічалі ў сьвяце, пакуль на досьвітку іх не змарыў сон ля вогнішча, якое ўжо пацiху дагарала.

Былі й тыя, хто прысьпеў да "разбору капялюшоў", гэта Яўген і Алег з навейшай эміграцыі. Усё-ж малойцы, што прыехалі.

Першы сонечны прамень пазалотаю асьвяціў вяршыні дрэваў, сьлізнуў па кустох лёгкаю смугою яшчэ няяснага сьвятла асьвятліўшы купкі грацыёзных аленяў, якія неяк па-дзіцячы даверліва і зьдзіўлена пазіралі на нас, і сонечнае сьвятло дыямэнтамі рассыпалася па роснай траве. Ад утапаючай у зеляніне ракі лёгкім туманам уздымалася пара. Чароўная ноч праляцела вельмі хутка. Мой сын, сьпяшаючыся, адвёз мяне ў наступаючы дзень на працу.

Хоць мы й стараліся прытрымлівацца абраду, хучэй гэта была купальская рэпэтыцыя, якая дала несьвядомым удзельнікам нейкае ўяўленьне аб Купальлі. Калі-б нам удалося ўтварыць гурт з 5-7 чалавек, які-б стаў вядучым, а ўдзел астатніх стаў традыцыйным і асэнсаваным, то так, магчыма, мы-б дасягнулі нацыянальнае сьведамасьці эміграцыі ня горш як праз мітынгі й дэманстрацыі. Але гэтыя дзеяньні павінны ўвайсьці ў сэрцы як сьвятое прычасьце.

Шкада, што не было з намі ў гэты раз былой кіраўніцы "Васілька" Аллы Орса-Романо. Затое сваёю прысутнасьцю ў пачатку нас уважыў Уладыка Юры (Рыжы) з раднёю, які разумее, што хочам мы таго ці не, але наш фальклёр базуецца на язычкых традыцыях, а гэта нашая гісторыя і культура. Нацыянальная-ж культура, фальклёр, як і сам народ без роднае мовы не існуе. Адсюль выснова – трымайма нашыя традыцыі й мову, калі хочам быць беларусамі.

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***

## С. п. Рыгор АРЦЮШЭНКА (1928-2004)

10 траўня адыйшоў ад нас усімі паважаны Рыгор Арцюшэнка. Жыцьцё яго пачалося на беларускім Палесьсі ў Хойніках. Сям'я Арцюшэнкі рана страціла галаву - бацьку, якога зьнішчыла душагубная савецкая камуністычная ўлада. Маці, каб пазьбегчы далейшай гібелі, падалася ў канцы вайны зь дзецьмі на Захад.

Аб папулярнасьці супачыўшага Рыгора сьведчыла колькасьць людзей, якія сабраліся на паніхіду ў пахавальным доме. Былі там сябры па супольнай грамадзкай працы ў "Бэлэр-Менску", старшынём якога быў ён на працягу 12 год. Меў ён Богам дадзеную вялікую здрольнасьць гуляць у валейбол. На працягу 30 гадоў быў слаўным "забойшчыкам" і пераможцам на многіх валейбольных турнірах, пачынаючы ад 1947 году ў беларускім лягеры Ватэнштэт у Нямеччыне. Таксама ён меў арганізацыйныя здольнасьці, ці то былі спартовыя турніры, ці зьбіраньне сродкаў для хворых дзяцей у Чарнобыльскай зоне. Стараўся, як толькі мог пры куплі царкоўнага пляцу і пабудове царквы й грамадзкае залі. Быў беларускім патрыётам!

Пакінуў у смутку жонку Соню, зь якою пражыў разам 50 гадоў, дачок Веру, Надзю і Ларысу, унукаў Лі Грэгора і Гэтзэр Ан.

Няхай на ягоную магілу прылятаюць вятры з далёкай Беларусі й роднага Палесься і зь лясным шумам і гоманам прыносяць яму вестку, што любая ім Беларусь жыве і будзе жыць! Вечная яму памяць!

*Міхась СЕНЬКА*

## С. п. Міхась БОРДАК (1932-2004)

4 ліпеня адыйшоў у вечнасьць с. п. Міхась Бордак. Нарадзіўся ён у вёсцы Карчова на Гомельшчыне. У 1944 годзе разам з бацькамі, братам Федзем і сёстрамі Галінай і Марыяй выехалі ў Нямеччыну. Пасьля вайны спачатку жылі ў украінскім лягеры ў Браўншвайгу, а пазьней пераехалі ў беларускі лягер Ватэнштэт. У 1951 годзе прыехалі ў ЗША. Міхась з бацькамі й братамі пасяліліся ў Саўт Рывэры. Калі с. п. Рыгор Арцюшэнка зарганізаваў беларускую валейбольную дружыну, то Міхась быў у ёй адным зь першых валейбалістаў. Міхась заўсёды быў шчырым беларусам.

Пакінуў у смутку жонку Вольгу, дачок Лілю, Лору і ўнучку Мэлісу.

Вечная яму памяць!

*Ж. Н.*

### Фонд ДАР САКАВІКА атрымаў наступныя ахвяраваньні:

| | |
|---|---|
| Н. Яўдосюк | $20 |
| Л. Хрэноўскі | 15 |
| Др. Б. Рагуля. . канад. дал. | 1750 |
| А. Монід | 300 |
| Я. і С. Новак | 300 |
| М. Ганько | 100 |
| В. Грыцук | 100 |
| М. Буцко | 75 |
| К. Акула | 50 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 50 |
| А. Маркевіч | 50 |
| Ю. Рэпэцкі | 50 |
| І. Сурвілла | 50 |
| К. і Г. Шыкалюк | 50 |
| а. А. Яноўскі | 50 |
| А. Бельмач | 25 |
| В. і М. Лазар | 25 |
| Г. Галавач | 20 |
| М. Новак | 20 |
| Л. Паплаўская | 20 |
| Д. Самусевіч | 20 |
| А. Хрэноўскі | 20 |
| Г. Хрэноўскі | 20 |
| Д. Баўдовіч | 15 |
| Р. Хрэноўскі | 15 |
| Невядомы | 10 |
| Кавалёў | 10 |
| С. Паўловіч | 10 |
| Ю. Акула | 5 |
| В. Манькоўская | 5 |
| М. Антух. . . . . аўстр. дал. | 100 |
| М. Лужынскі | 100 |
| В. Элкановіч | 50 |
| В. Русак | 50 |
| О. Крымскі | 30 |
| Г. Падгайскі | 20 |

**На заканчэньне пасьпяховай акцыі Дару Сакавіка 2004 Прэзыдыюм Рады БНР выказвае вялікую падзяку ўсім ахвярадаўцам. Яна належыцца тым, хто безпасярэдне прыслалі ахвяраваньні ў гонар шматгадовага скарбніка Рады БНР с. п. Віталя Кажана, і тым, хто шчодра адгукнуліся на падпісныя лісты, збор ахвяраваньняў на якія прайшоў вельмі добра.**

***Зьбіральнікі на Дар Сакавіка маюць чым ганарыцца:*** Янка Азарка, Алесь Міцкевіч і Валеры Дворнік ў ЗША, Рыгор Шайпак, Алесь Мароз і Мікола Антух у Аўстраліі, Алена Міхалюк у Вялікабрытаніі, Арсень Монід у Канадзе, Ганна Сурмач у Чэхіі.

**Асабліва трэба падзякаваць спн. Юлі Кажан, якая давяла акцыю Дару Сакавіка 2004 да канца пасьля сьмерці бацькі.**

## Лятарэя

Ад 1 чэвеня беларусам, што жывуць у засягу дзейнасьці сэктару Рады БНР у Нью Ёрку было разаслана каля 280 лятарэйных нумароў для разыграньня. Шчасьлівымі былі наступныя нумары:

№ 33 - М. Чупракоў - кніжка "Гутаркі з А. Шукелойцем".
№ 59 - Н. Дудар - кніжка "Палескія рабінзоны".
№ 64 - В. Яфрэменкаў - касэта "Белы сон".
№ 84 - В. Кузьменка - кніжка "Сымон-музыка".
№ 97 - Ю. Касьцюкевіч - малы калькулятар.
№ 145 - др. У. Набагез - кніжка "Гутаркі з А. Шукелойцем".
№ 160 - А. Пранцэвіч - кніжка "Рэха малітвы".
№ 195 - др. А. Занковіч - нататнік.
№ 251 - Н. Аляксандар - касэта царкоўных сьпеваў.
№ 255 - А. Хадаронак - кніжка "Гутаркі з А. Шукелойцем".
№ 261 - П. Рыжы - касэта царкоўнай музыкі.
№ 269 - М. Клакоцкі - гальштук.

**На дзейнасьць Сэктару атрымана $284. Найшчырэйшая падзяка ўсім за ўдзел.**

4 верасьня 2004 году ў Бэльгіі адбудзецца Зьезд прадстаўнікоў беларускай палітычнай эміграцыі «апошняй хвалі».

Мэтамі Зьезду ёсьць:

- абмеркаваньне становішча ў асяродку палітычных уцекачоў зь Беларусі;
- вызначэньне ролі беларускай дыяспары "апошняй хвалі" ў працэсе дэмакратызацыі Бацькаўшчыны;
- кансалідацыя беларускай эміграцыі дзеля дапамогі беларускай палітычнай апазыцыі, а таксама дэмакратычным СМІ ў Беларусі.

Падрабязьнейшая інфармацыя па падрыхтоўцы Зьезду, беларускай эміграцыі даступная на: *http://www.razam.org*

Арганізатары чакаюць прапановаў ды заўвагаў.

Аргкамітэт: Беларускае Эўрапейскае Задзіночаньне (Бэльгія);
Зьвяз Беларусаў Замежжа (Чэхія);
Зьвяз на карысьць дэмакратыі ў Беларусі (Польшча);
Зьвяз Беларусаў Нямеччыны;
Зьвяз Беларусаў Галяндыі;
Беларускі Цэнтар у Бэльгіі;

Кантактныя тэлефоны ў Бэльгіі: (32)485175599, (32)497117469.

---

Сьвятар і парафіяльная рада Катэдральнага Сабору Сьв. Кірылы Тураўскага Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы ў Брукліне на: *401 Atlantic Ave* запрашаюць вас на Божыя службы кожную нядзелю а 10-й гадзіне раніцы.

---

Запрашаем усіх жадаючых наведаць царкоўны пікнік, які адбудзецца 8 жніўня 2004 году ў Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд Парку, Нью Джэрзы. Пачатак адразу пасьля Багаслужбы.

*Царкоўная Рада*

**Рэдакцыю газэты "Беларус" і сябры аддзелу БАЗА ў Нью Ёрку віншуюць Старшыню Галоўнай Управы БАЗА сп. Антона ШУКЕЛОЙЦЯ з 89-мі ўгодкамі зь дня нараджэньня і зычаць добрага здароў'я і памыснасьці ў працы.**

### ШУКАЮ

Міколу СТОМУ, філёлага, кампазытара, настройшчыка музычных інструмэнтаў, які ў 2003 годзе жыў у Варшаве.

Калі вы ведаеце нешта пра ягонае месцазнаходжаньне, паведаміце, калі ласка, на адрас:

*Mrs. V. Jakimovich*
*2301 First Ave apt. 6B*
*New York, NY 10035*
тэл. (917) 376-3667.



### НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| К. Акула | 150 |
| М. Баяроўскі | 90 |
| А. Курушка | 80 |
| Р. Жук-Грышкевіч | 35 |
| В. Яцэвіч | 35 |
| Л. Корчык | 30 |
| Х. Кажаневіч . . анг. фунт. | 20 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
Выдае штомесячна:
***Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне***
Сусьветнае сеціва: ***baza-belarus.org***
Падпіска $30 на год.
Чэкі выпісвайце на BIELARUS
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
Published monthly by
***Belsrusan American Ass'n, Inc.***
Subscription $30 yearly
Make checks payable to ***BIELARUS***
Рэдагуе калегія.
Адказны рэдактар Марат КЛАКОЦКІ
Падпіска Сяргей ТРЫГУБОВІЧ
Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыялямі, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.
Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.

Адрас для допісаў і кантактаў:
***BIELARUS***
***P.O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***
E-mail:
***hazetabielarus@att.net***
Сусьветнае сеціва:
***www.bielarus.org***
ISSN 1054-9455
Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.